



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

31 ЛІПЕНЯ 1998 Г. № 31/3959 КОШТ 4 000 РУБ.








# Талент гады не лічыць

Заўтра — Жнівень. Назву гэтага месяца захацелася напісаць, як імя: з вялікай літары. Пазначыўшы, калі верыць гараскопам, час нараджэння аўгусцейшых асоб. Пазначыўшы вынік сяўбы і пачатак новай вялікай працы — збору ўзгадаванага. Пазначыўшы сімвал ураджаю.

Заўтра — Жнівень. Ён і сапраўды, калі верыць календарам, даў свету нямала выбітных асоб. Прынамсі, свету мастацтва.

Зрэшты, у свеце мастацтва не любяць дакладных лічбаў, а значыць, і дакладных дат. Што ж застаецца — паверыць не календару, а паэту, следам за ім паўтарыўшы вядомае наконт хлусні календароў?..

Ды ўсё ж, вер не вер, а шосты дзень надыходзячага месяца нагадае, што менавіта 6 жніўня нарадзіўся Талент. Імя Талента — Ігар Лучанок. Музыкант-пясняр ласкаю Божай, ён сапраўды мае імя ў гэтым грэшным свеце. Яшчэ — мае знакі афіцыйнага прызнання творчых заслуг, мае прыхільнікаў і вучняў, мае адказнасць за лёс беларускай супольнасці кампазітараў, якія ўжо нямала гадоў давяраюць яму чын кіраўніка свайго творчага саюза.

У гэтым грэшным свеце, у нашым зменлівым жыцці Ігар Лучанок вылучаецца як асоба шматгранная, неадназначная, нават парадаксальная. Захоплена выступае перад школьнікамі,

*(Працяг на стар. 2)*

## ЛМ КОЛА ДЗЁН

***У панядзелак, 27 ліпеня, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны, восьмы раз адзначылі Дзень Незалежнасці. Восем гадоў таму Вярхоўны Савет 12-га склікання абвясціў вяршэнства беларускага закона на беларускай зямлі. Падобна на тое, што дэпутаты ВС БССР кепска ўяўлялі, якую вялікую справу яны здзейснілі. Для іх абвяшчэнне незалежнасці было ўсяго толькі стадыяй падрыхтоўкі новага "саюзнага дагавора", які, зразумела, мусіў яшчэ мацней прывязаць "брацкія рэспублікі" да Масквы, ліквідаваць дэклараванае яшчэ ў 1922 годзе права рэспублік на свабодны выхад са складу Саюза. Права толькі дэклараванае, бо рэалізаваць яго пры савецкай рэчаіснасці было немагчыма.***

***Аднак насуперак волі дэпутатаў, атрымалася інакш. Не ўсё, дзякуй Богу, залежыць ад улады. Таму 27 ліпеня сталася для нас святам.***

***У гэты дзень у сталіцы краіны адбыліся шэсце і мітынг. І, як ні дзіўна, прайшлі яны без эксцэсаў...***

### МУЗЕЙ ТЫДНЯ

У вёсцы Крывель Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці адкрыўся дом-музей вядомага савецкага кінаакцёра Пятра Алейнікава. Гэта мерапрыемства прайшло ціха. Чакалі гасцей з Масквы на чале з Вячаславам Ціханавым, але тыя не прыехалі. Беларускі Саюз кінематаграфістаў таксама праігнараваў падзею.

### ЗАНЕПАКОЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Міністр замежных спраў РБ Іван Антановіч выказаў занепакоенасць тым, што на тэрыторыі Польшчы ствараецца радыёстанцыя "Вольная Беларусь". Гэта, на думку сп. Антановіча, можна трактаваць як варожыя дзеянні Польшчы ў адносінах да беларускай улады.

Міністр замежных спраў Польшчы Бранiслаў Герэмек у сваю чаргу заявіў, што афіцыйная Варшава не мае нічога агульнага з планамі стварэння "Вольнай Беларусі". Праект фінансуецца Еўрапейскім Саюзам.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

На дадзены момант колькасць носьбітаў ВІЧ-інфекцыі ў нашай краіне складае больш як 2000 чалавек, большасць якіх — моладзь ад 19 да 25 гадоў. Сумнае лідэрства па-ранейшаму ўтрымлівае Светлагорск. За ім ідуць Мінск і Жлобін. Небяспечная сітуацыя ў Магілёве, Гомелі, Рэчыцы.

### НАМЕР ТЫДНЯ

У выканкаме Саюза Беларусі і Расіі разгледжана пытанне аб стварэнні тэлерадыёвяшчальнай кампаніі Саюза. Калі яна будзе створана, ёй выдзеляць час для трансляцыі на базе каналаў Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёвяшчальнай кампаніі.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

У "Свободных новостях" надрукаваны чарговы артыкул Анатоля Казловіча з цыкла "Мы ў 1994—2006 гадах". Назва яго — "Бананы і цвікі". Аўтар разважае пра лёс беларускага этнасу, інакш кажучы — "абарыгенаў" беларускай зямлі. Вірусы бяспамяцтва, абыякавасці да свайго лёсу, занесеныя на нашу зямлю каланізатарамі, могуць пазбавіць нацыю будучыні. "Сучаснікі, адчуйце боль абарыгенаў! XXI стагоддзе стане стагоддзем іхняга адраджэння. Абарыгены маюць права забраць тое, што забралі ў іх. Забіраючы, яны не заўжды будуць карэктнымі, цывілізаванымі. Аднаўляючы абарыгенныя сферы жыцця і гаспадаркі, яны наламаюць дроў, пакрыўдзяць іншакроўных (Латвія, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Чачня).

Даруйце ім. Не называйце сепаратыстамі, нацыяналістамі, варварамі. Ад іх нарадзілася цудоўная шматаблічнасць свету. (...) Дайце свабоду ўсім абарыгенам — і яны адновяць сувязі з вамі, зыходзячы з уласных інтарэсаў.

Толькі не балбачыце пра "брацкую дружбу" народаў. Яна — рэдкасць нават сярод родных братоў. Народы не сябруюць, а супрацоўнічаюць на ўзаемавыгадных умовах".

### НЕБЯСПЕКА ТЫДНЯ

Газета "Белоруссия" друкуе пад загалоўкам "Сацыяльны пухір саспеў..." інтэрв'ю са старшынёю Беларускага рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамарай Чобатавай. "Жыццё прымушае настаўніка адмовіцца ад адпачынку і ісці працаваць у летні час нават рознарабочым, толькі б зарабіць грошы ў бюджэт сям'і". Маладыя настаўнікі ўвогуле зарабляюць ніжэй узроўню малазабяспечаных: 1,24 — 1, 42 мільёна рублёў. Да таго ж, настаўнікаў увесь час пазбаўляюць колішніх ільготаў. "Сацыяльны нарыў у настаўніцкім асяроддзі саспеў, але ўрад стараецца гэтага не заўважаць".

Дарэчы, кіраўніцтва краіны маркуе палепшыць стан настаўнікаў і работнікаў дашкольных установаў... у 2005 годзе. Як кажуць, "пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ".

### ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

Сусветны маладзёжны фестываль збірае на гэтым тыдні прадстаўнікоў 250 краін у Партугаліі. Прыемна, што ўдзельнікі прэстыжнага дэмакратычнага міжнароднага форуму змогуць пазнаёміцца з адметным напрамкам сучаснай беларускай фолк-музыкі, бо на фестываль у Лісабон запрошаны мінскі гурт "Троіца". Дарэчы, у творчым жыцці "Троіцы" (Іван Кірчук, Дзмітрый Лук'янчык ды Віталь Шкілёнак) за няпоўныя 3 гады яе існавання гэта, паводле сціплых падлікаў, 15-ты міжнародны фестываль. Пасля выступленняў у Партугаліі беларускія музыканты прадоўжаць канцэртнае турнэ па Еўропе.

ФЕСТЫВАЛІ

# "Як у вас добра!.."

Дзесяць дзён у Віцебску адбываліся самыя неверагодныя гісторыі, і кожны час, і ўдзень, і ўночы здараліся нейкія казачныя выпадкі, ад якіх шалелі нават дасведчаныя ва ўсім маскоўскія журналісты. Дарэчы, гэтым апошнім даставалася, і вельмі. Бо яны заўсёды імкнуліся пабыць усюды, але ж трапіць на ўсе падзеі "Славянскага базару..." было проста немагчыма. У адзін час спявала "Пеўчае поле", гудзеў амфітэатр, на подыум выходзілі мадэлі ад выдатных куцюр'е, дэманстраваліся фільмы, праходзілі рандэву з зоркамі.







Па адзінадушным прызнанні ўсіх, і зорных удзельнікаў фестывалю мастацтваў, і яго арганізатараў, і незалежных назіральнікаў, "Славянскі базар..." атрымаўся святочным і па-сапраўднаму фестывальным. Кульмінацыяй фестывалю мастацтваў стаў канцэрт закрыцця, які, як вядома ж, многія глядзелі па БТ. Канцэрт быў вельмі ўдала пастаўлены, і, здаецца, яго можна назваць ці не самым лепшым з усіх канцэртаў, якія ведала сцэна Летняга амфітэатра.

Сенсацыяй фестывалю па вартасці можна назваць гала-канцэрт зорак балета, у якім удзельнічалі прадстаўнікі некалькіх вядучых балетных труп з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Беларусі і Украіны. Аднак, шчыра кажучы, Віцебск аказаўся яшчэ не зусім падрыхтаваным да канцэрта такога высокага кшталту. Аншлагу, як на выступленні Філіпа Кіркорава, які пыхліва спеў пяць песенек пад фанаграму, гэтае ўнікальнае відовішча, на жаль, не мела. Адказваючы на пытанні журналістаў, Андрыс Ліепа, які прадстаўляў артыстаў балета, падкрэсліў, што гэты гала-канцэрт быў эксперыментальным, віцебскі глядач аказаўся вельмі ўдзячным, і яны згодны прымаць удзел у наступных "Славянскіх базарах..."

Цікавым падалося і параўнанне, якое прагучала з вуснаў знакамітага майстра:

— Як віцебская публіка рэагавала на Кіркорава, так сустракалі расійскі балет у Аргенціне. Аргенцінцы ставяцца да балета з такім жа тэмпераментам, як і да футбола.

Андрыс наведаў Віцебск са сваёй сястрой Ілзай, якая танцавала на сцэне ў касцюме ад Юдашкіна. У кінатэатры "Спартак" Андрыс і Ілза прадставілі свой казачны фільм "Жар-птушка".

Адносна міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні, у якім галоўную перамогу атрымаў спявак з Ізраіля Рафаэль (гран-пры, 10 тысяч долараў), старшыня журы маэстра Ігар Крутой на прэс-канферэнцыі зазначыў, што журы не пайшло на павадзе палітычных інтарэсаў, перамагла творчасць. Аднак у далейшым неабходна мяняць стыль работы адборачнага тура, праводзіць на працягу года тэлевізійныя конкурсы будучых удзельнікаў "Славянскага базару ў Віцебску". Першую прэмію (6 тысяч долараў) павезла ў Югаславію Таня Банянін. Беларуская спявачка Вікторыя Дземянчук заняла другое месца. Трэцюю прэмію падзялілі прадстаўніцы Украіны, Балгарыі, Польшчы.

Ізраільскі пераможца трапіў на "Славянскі базар...", безумоўна, невыпадкова. Ён прафесійны спявак, ужо гастраляваў у Аўстрыі, Амерыцы, Бельгіі, Францыі. Для "Славянскага базару..." ён спецыяльна вывучыў песню на беларускай мове "Зачараваная" Ігара Лучанка. Прадзюсер спевака Сямён Газарх — былы віцяблянін, які з 90-га года жыве ў Ерусаліме.

У прадстаўнічае міжнароднае журы ўваходзілі спевакі і кампазітары з васьмі краін Еўропы і ЗША. Атрымалася амаль па кожнага ўдзельніка конкурсу па ўдзельніку журы.

Мастачка з Санкт-Пецярбурга Лілія Кісяленка шчыра прызналася віцебскім журналістам:

— Вы самі не ведаеце, як у вас добра! Мы толькі з Парыжа, там такая нудота... Віцебску — ура!

**Святлана ГУК**

*На здымках — беларускія фрагменты "Славянскага базара"*

# Талент гады не лічыць

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

для якіх напісаў нямала дзіцячых песень; сябруе з "сілавымі структурамі"; падтрымлівае спартсменаўцяжкаатлетаў; замілоўваецца гожымі радкамі беларускай паэзіі; згадвае рамантычныя сустрэчы на Паўночным флоце; задумваецца пра стварэнне балета; надае музычныя крылы вершу "галоўнага апазіцыянера"; шчыруе на творчым вечары "партыйнага паэта"...

Чалавек, які носіць у сабе музычны талент, не можа быць раз і назаўжды зразумелы, просты, адназначны.

Зразумелымі — раз і назаўжды — робяцца для ягоных прыхільнікаў праявы гэтага таленту, самі творы. Згадаўшы імя Ігара Лучанка, кожны згадае і песні. "Спадчына", "Вераніка", "Мой родны кут", "Алеся", "Жураўлі на Палессе ляцяць", "Бярозка", "Світанак"... Хтосьці назаве яго класікам беларускай лірычнай песні. Хтосьці — аўтарам песень патрыятычных. Хтосьці скажа, што і жартоўныя песні ў Лучанка добрыя. Хтосьці падзякуе яму за памяць пра ветэранаў мінулай вайны. А трагедыя Чарнобыля? А боль Афганістана?.. Усё — у песнях...

Календары маўчаць пра тое, што сёлетні жнівень народны артыст СССР (а перадусім усё ж — Беларусі) кампазітар Ігар Лучанок сустракае як юбіляр. Але людзі пра тое раней ці пазней дазнаюцца. І перш чым віншаваць, пачнуць ударна складняць "круглую" лічбу. Нібыта ў ёй — галоўнае.

Але ж галоўнае, урэшце, у тым, што жнівень для Ігара Міхайлавіча Лучанка — "свой" месяц. Ураджайны, умалотны. Напоўнены справамі.

Галоўнае ў тым, што Талент гады не лічыць, бо, як заўважана, узросту не мае. Ён — вечны. На тое і Талент.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота У. КРУКА*

ВІНШУЕМ!

## Беларус пакарыў Амерыку

З гэтай нагоды можна казаць пра грандыёзны поспех беларускай школы фартэпіяннага выканальніцтва. Але будзем гаварыць канкрэтна: гэта — грандыёзны поспех нашага суайчынніка, лаўрэата міжнародных конкурсаў Андрэя Паначэўнага. Днямі ён вярнуўся ў родны Мінск з перамогай: першая прэмія на Міжнародным конкурсе піяністаў імя Вільяма Капэла, што праводзіцца ў Злучаных Штатах Амерыкі ўжо 21-шы раз!

Разам з Андрэем Паначэўным, 21-гадовым студэнтам 4 курса Беларускай акадэміі музыкі, ездзіў на гэтую імпрэзу і яго педагог, заслужаны артыст Беларусі, прафесар Юры Гільдзюк. Ён і паведаміў радасную вестку, шчаслівы і крыху разгублены:

— Першае месца, якое міжнароднае журы прысудзіла Андрэю, было для нас нечаканасцю. Мы думалі пра тое, што, мабыць, пашанцуе прайсці на 2-гі тур. Потым думалі, што можна разлічваць на трэцяе месца... Так што я не проста ўзрадаваны, а па-сапраўднаму шчаслівы! Такога яшчэ не было ў гісторыі, каб беларус стаў лідэрам прэстыжнага спаборніцтва музыкантаў у Амерыцы, каб яму давялося іграць у славутым Кенэдзі-цэнтры! Мала таго: Андрэй Паначэўны атрымаў адразу 29 ангажэментаў, і ў яго наперадзе — канцэртныя выступленні ў лепшых залах ЗША. Лаўрэатамі 2-й і 3-й прэмій сталі піяністы з Канады ды Італіі. Прыемна, што другі беларускі спаборнік Юры Блінкоў атрымаў заахвочвальную прэмію за ўдзел у паўфінале...

Напраўду, такое — упершыню!

**С. Б.**

АНОНС

## Адсвяткуем шырока

Старэйшы беларускі творца, адзін са стваральнікаў айчыннай кампазітарскай школы, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій прафесар Анатоль Васільевіч Багатыроў сустракае сваё 85-годдзе. Юбілейная дата — у жніўні. Але ўжо ў ліпені загадам міністра культуры А. Сасноўскага створаны аргкамітэт па святкаванні 85-годдзя Анатоля Багатырова, якое пройдзе аж да кастрычніка.

Аргкамітэт на чале з першым намеснікам міністра культуры Беларусі Уладзімірам Рылаткам склаў план юбілейных мерапрыемстваў, вызначыў месцы іх правядзення, выказаў прапановы наконт фінансавання і г. д. Што да "ЛіМа" — наш тыднёвік ужо рыхтуе да друку матэрыял, прысвечаны асобе А. Багатырова, якая ўвабрала ў сябе мноства яскравых і глыбокіх старонак гісторыі, культуры. Мы гатовы таксама інфармаваць сваіх чытачоў пра ўсе падзеі, звязаныя са святкаваннем юбілею знанага творцы і педагога.

**С. Б.**

АБСЯГІ

БРЭСТ...

## "Радавод" — новы часопіс

Першы нумар гісторыка-краязнаўчага і літаратурнага часопіса літаральна днямі выпусціла ў свет Берасцейскае выдавецтва Сяргея Лаўрова. Сам выдавец стаў галоўным рэдактарам, а літаратурны аддзел узначаліў драматург і паэт Ігар Сідарук. Нумар насычаны цікавымі матэрыяламі з гісторыі краю — пра Брэсцкі езуіцкі калегіум, мужчынскую гімназію імя Р. Траўгута, яўрэйскі пагром 1936 года, пра лёс асаднікаў пасля верасня 1939-га... Аўтары публікацый — вядомыя гісторыкі і краязнаўцы Юрась Рубашэўскі, Анатоль Бензярук, Віталь Клімчук і многія іншыя. У літаратурным раздзеле — паэзія Ніны Мацяш, Зінаіды Дудзюк, Васіля Сахарчука, Анатоля Дэбіша, проза Івана Арлова, палескія народныя казкі ў запісах і перакладзе Алеся Каско.

Часопіс мае паўтары сотні старонак, у ім пераважае беларуская мова. Падпісацца на яго можна ў агенцтвах "Белсаюздруку".

## Медалісты выбіраюць беларускую мову

Берасцейшчына з прычыны яе геаграфічнага становішча, асаблівасцей гістарычнага развіцця і прысённяшняй палітыцы двухмоўя, здавалася б, не самы прыдатны рэгіён для ўмацавання пазіцый беларускай мовы. Але ўжо самыя першыя вынікі ўступных экзаменаў у Брэсцкі дзяржуніверсітэт засведчылі, што ў нашай нацыянальнай мовы тут неблагая будучыня. Сярод абітурыентаў філалагічнага факультэта найбольш тых, хто абраў спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура", "беларуская мова, літаратура і гісторыя", "англійская і беларуская мовы" (конкурс тут складае ад двух да чатырох з паловаю чалавек на месца). І ў іх ліку — 46 выпускнікоў-медалістаў. Зрэшты, і на іншых аддзяленнях і факультэтах вельмі многія выбралі пісьмовы экзамен па беларускай мове.

## "Каралеўская" прэмія

Гэтак жартам, але й з павагаю, архітэктары "ахрысцілі" прэмію вядомага беларускага дойліда Уладзіміра Адамавіча Караля. Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва зацвердзіла яе сёлета, а першымі лаўрэатамі сталі супрацоўнікі адкрытага акцыянернага таварыства "Брэстпраект". Яны падрыхтавалі дэталёвы план размяшчэння свабоднай эканамічнай зоны вакол прыгранічнага горада, удзяліўшы асаблівую ўвагу захаванню ландшафту і ахове прыроды. Галоўны архітэктар праекта — Аляксей Андраюк, ужо неаднаразовы пераможца рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў.

## Міцкевіча чытае мастачка

У Брэсцкім музеі выратавальных каштоўнасцяў адкрылася выстава работ мастачкі Тамары Паўлючук "Вяртанне", прысвечаная 200-годдзю Адама Міцкевіча. Адразу 26 жывапісных палотнаў вынесена на суд гледачоў. Гэта партрэты слыннага паэта і яговых сучаснікаў, гістарычныя пейзажы, фантазіі паводле шматлікіх твораў А. Міцкевіча. Калегі-мастакі, літаратары, музейныя работнікі, журналісты высока ацанілі натхнёную працу Тамары Іванаўны. На адкрыцці выставы добрае слова ў адрас мастачкі сказаў і старшыня аблвыканкама Уладзімір Заламай.

## Музей горада

Склалася так, што ў савецкія часы самыя старажытныя будынкі ў абласным цэнтры пазаймалі разнастайныя сілавыя ведамствы. Грамадскасць горада не раз падымала пытанне пра гэта. Аднак нічога не мянялася, хіба што замест выселенага выцвярэзніка пасялялі АМАП... Сёлета нарэшце зроблены першы крок, каб архітэктурныя помнікі сталі культурнымі цэнтрамі. 25 ліпеня быў урачыста адчынены Музей горада, які размясціўся ў адным з рэстаўраваных маляўнічых дамкоў. У будучым годзе Брэсту споўніцца 980 гадоў, і акурат да гэтай даты будзе закончана экспазіцыя музея. А пакуль што яна абмежаваная перыядам Сярэднявечча.

**Сымон АКСЕНІН**

ГОМЕЛЬ...

## Майстры з Хамічоў

У вёсцы Хамічы нарадзіліся члены Беларускага Саюза мастакоў браты Феі — Пётр Міхайлавіч і Васіль Міхайлавіч. З маленства яны пасябравалі з ганчарствам. І потым самі сталі знакамітымі майстрамі беларускай керамікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Закончылі Феі вядомае ў былым Саюзе Абрамцаўскае мастацкае вучылішча імя Васняцова. Творчасць братоў непарыўна звязана з Гомелем. З'яўляюцца яны аўтарамі работ, якія ўпрыгожваюць інтэр'еры шматлікіх арганізацый, устаноў, школ, дзіцячых дамоў горада над Сожам. Мастакі — удзельнікі буйнейшых выстаў у Мінску, Маскве, Юрмале, Італіі. Адначасова яны плённа працуюць і ў галіне жывапісу. Пётр Міхайлавіч стварыў вялікую серыю работ пра беларускі край, у тым ліку і пра Веткаўскі раён — мёртвую радыяцыйную зону. А Васіль Міхайлавіч "дабраўся" аж да Сахаліна. У гэтыя дні браты прадставілі свае работы на суд гледачоў: у Калінкавіцкім музеі адкрылася экспазіцыя іх работ.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБСК...

## Сімвал свабоды

Літаратурны музей Варшавы прывёз на "Славянскі базар у Віцебску" цудоўную фотавыставу "Адам Міцкевіч". Прэзентацыя яе адбылася ў Віцебскім мастацкім музеі. Па ацэнцы мастацтвазнаўцаў, такой грунтоўнай і сучаснай выставы аб лёсе паэта ў нас дагэтуль не было.

— 200-ыя ўгодкі Адама Міцкевіча адзначае ўвесь свет. Дата яго нараджэння ўнесена ЮНЕСКА ў спіс дат міжнароднага значэння, — сказала аўтар выставы віцэ-дырэктар Літаратурнага музея Варшавы пані Эльжбета Банка-Сітэк. — На творчасці Міцкевіча выхоўвалася не адно пакаленне палякаў. Для нас ён — сімвал свабоды. Паэзія Міцкевіча яднае нашы народы, прымушае сучаснікаў задумацца аб лёсах нашых краін...

Трыццаць два планшэты, выкананыя ў камп'ютэрнай тэхніцы, распавядаюць аб багатай біяграфіі народнага песняра. У сярэдзіне жніўня гэтая выстава паедзе ў Мінск, а потым на радзіму Міцкевіча — Навагрудчыну.

**Святлана ГУК**

# Скарб найпершы і найгалоўнейшы

23 ліпеня адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Сярод іншых дакументаў, прынятых на пасяджэнні, — заява адносна закона аб зменах у дзеючым законе "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і зварот да прэзідэнта НАН Беларусі А. Вайтовіча.

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца:

"Наданне рускай мове, якая даўно ўжо пануе ў многіх галінах нашага жыцця, афіцыйнага статуса другой дзяржаўнай суп'ёзна падарвала ажыццяўленне ідэй беларускага адраджэння, паставіла пад пагрозу развіццё роднай мовы тытульнай нацыі краіны.

Рада ТБМ заклікае сяброў ТБМ, усіх свядомых грамадзян Беларусі прыкласці ўсе намаганні дзеля рэальнага забеспячэння беларускай мове статуса дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, дзеля сцвярджэння становішча яе як паўнапраўнай гаспадыні на сваёй гістарычнай зямлі".

У звароце да прэзідэнта НАН рада ТБМ адзначае:

"Са здзіўленнем і абурэннем даведаліся аб рашэнні Прэзідыума НАН Беларусі адмяніць залік па беларускай мове для аспірантаў і спабornікаў. Рашэнне Прэзідыума НАН тым больш нечаканае, што парушае нават і Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які ўступіў у дзеянне 17 ліпеня г.г.

У артыкуле 24 вышэйзгаданага закона сказана, што "беларуская мова ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь вывучаецца незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці". Аспірантура Вашай шаноўнай установы, як нам здаецца, ніякім чынам не можа быць выключэннем з правіла. Дарэчы, рашэнне Прэзідыума НАН пярэчыць і артыкулу 25 Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які мае назву "Мова ў сферы навукі".

Лічым яго амаральным, бо беларускія вучоныя заўсёды былі аднымі з самых актыўных і дасведчаных абаронцаў духоўных скарбаў свайго народа, а мова, як агульнапрызнана гісторыяй, — найпершы і найгалоўнейшы сярод іх. Урэшце, як Вам вядома, і сама акадэмія пачыналася з Навукова-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта.

Здымаюць ганьбу са сваёй аўтарытэтнай установы і адмяніце цалкам палітызаванае, неразумнае і кан'юнктурнае рашэнне ў адносінах да мовы акадэмікаў Я. Купалы і Я. Коласа, К. Крапівы і П. Броўкі, М. Лынькова і М. Танка".

З'ЕЗДЫ

# Не траціць энтузіязму

Канцэнтрацыя беларусаў на вулках Вільні пры канцы ліпеня значна ўзрасла. Адны, з Мінска, прыехалі як паломнікі на дзень памінання святых віленскіх мучанікаў, іншыя, з суседніх дзяржаў, сабраліся на ІІ з'езд беларусаў Балтыі. Першыя пра другіх збольшага ведалі, у выніку карэспандэнт "ЛіМа" займеў нагоду папрысутнічаць і нават атрымаў мандат дэлегата.

Агульнае ўражанне (калі меркаваць па адным дні) неблагое. Старшыня Таварыства беларускай культуры Хведар Нюнька сваім размераным спакойным голасам і тэмпам, мабыць, задаў тон гаворцы, таму ў выступах пераважалі канструктыўныя падыходы і дзелавыя прапановы, а не адмоўныя эмоцыі.

Змест выступленняў прадстаўнікоў ад суполак у асноўным быў адказам на пытанні, "што рабілі, што робім і якія маем планы". П. Ляшчук з Беласточчыны даходліва расказаў пра ўсе 9 суполак Беларускага саюза і пра Грамадскае культурнае таварыства, якое ў саюз не ўваходзіць. Прысутныя даведаліся пра накірунак дзейнасці, пра выданні, пра стан беларускамоўнай адукацыі ў краі і мовы ўвогуле.

Апошнія гады Беласточчына стала месцам правядзення многіх папулярных імпрэз, якія займелі розгалас у Беларусі і куды прэстыжна трапіць. Гэта і Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, і маладзёжнае "Басовішча", і бардаўскія восені, і Купалле ў Белавежы, і паломніцтвы на гару Грабарку. Да беларушчыны лепш далучаць не рытарычнымі прамовамі, а калектыўнымі святамі, якія яднаюць людзей. П. Ляшчук заклікаў прыязджаць на наступныя з'езды з дзецьмі і ўнукамі і паабяцаў паказаць у гэтым прыклад.

З. Клыга з Эстоніі агучыла прапанову свайго сябра па суполцы Уладзіміра Дзегцярука правесці вандроўку на Беларусь на роварах. Тым больш, што ў наступным годзе БЭЗ спаўняецца 10 гадоў.

Г. Сурмач, старшыня ЗБС, якая была ініцыятарам рэгіянальных сустрэч, абмалявала агульную сітуацыю ў дыяспары і канстатавала яе частковы раскол па адносінах да цяперашняй улады ў рэспубліцы. Сімптаматычна ўжо тое, што віленскае Аб'яднанне беларускіх арганізацый адмовілася ад удзелу ў ІІ з'ездзе. Мела сэнс, на думку Г. Сурмач, не замахвацца на статус з'езда (бо гэта вымагае юрыдычных працэдур), а абмежавацца сустрэчай — што больш адпавядала б характару мерапрыемства і дазваляла б выказацца па ўсіх пытаннях. У любым выпадку добра ўжо тое, што з'езд адбыўся. Старшыня ЗБС заклікала лаяльна паставіцца да людзей, якія на яго не прыйшлі, і тым пацвердзіла, што як кіраўнік ЗБС прытрымліваецца памяркоўных, узважаных поглядаў.

Сярод прысутных у зале я пабачыла шмат дзеячаў дэмакратычнай апазіцыі. Палітыка, як мне падалося, не вельмі арганічна ўпісалася ў змест і мэты гэтай сустрэчы. Адна справа — прывітальнае слова старшыні легітымнага ВС С. Шарэцкага і трошкі іншая — групавы выезд амаль усяго кіраўніцтва БНФ. Нейкую звышзадачу — акрамя сустрэчы з лідэрам-эмігрантам, які таксама прысутнічаў, — за падобным дэсантам разгледзець цяжка. Не лічыць жа за такую прамаўленне не раз сказанага? Можа, таму Л. Баршчэўскі не стаў чытаць цалкам свой аналітычны даклад, абмежаваўшыся фрагментамі.

На шчасце, палітыка была "разбаўлена" лірыкай. Аўгіння Кавалюк жыццё нашых землякоў у "паўночнай сталіцы" абмалявала вобразна:

*Беларусы ў Петраградзе —*
*Бы рамонкі ў густым садзе.*
*Нам і сонца малавата,*
*І жывецца сумнавата...*

Адзін з вершаў яна прысвяціла памяці Лявона Луцкевіча. Гадавіна яго смерці якраз прыпала на тыя дні, і з'ездаўцы наведалі магілкі ў Росах, усклалі кветкі.

У падрыхтоўцы з'езда значны ўдзел прыняў пісьменнік і выдавец Алег Мінкін. Газету "Рунь", заснаваную ім, прапанавалі зрабіць выданнем беларусаў усёй Балтыі, а не толькі Літвы. А. Мінкін расказаў пра планы адносна стварэння ў горадзе культурнага цэнтра і мастацкай галерэі. У яго выступленні прагучаў цікавы момант наконт перавагі якасці над колькасцю (маецца на ўвазе чалавечы фактар). Калі пад якасцю ён меў на ўвазе артадаксальнасць сучасных нашаніўцаў, то з ім варта было б паспрачацца...

Дэлегат з'езда, гісторык **Вячаслаў Харужы** (Беласток) падзяліўся сваімі ўражаннямі.

— Я не ўяўляў, едучы сюды, што тут будзе. Цяпер бачу, што на з'езд сабраліся людзі, якія сапраўды штосьці хочуць зрабіць для беларускай справы і займаюцца канкрэтнай работай. Пры гэтым ім даводзіцца пераадольваюць неймаверныя цяжкасці. Звычайна мы, беластокцы, любім скардзіцца, што польская ўлады мала выдзяляюць сродкаў на нашы выданні ды імпрэзы. Аказваецца, іншыя дзяржавы — Латвія, Эстонія — і гэтага "мала" не даюць беларускай меншасці... Радуе, што беларусы на эміграцыі не грэбуюць грамадскай працай, не трацяць энтузіязму і надзеі на лепшыя часы. Такія сустрэчы надзвычай патрэбныя, каб мы маглі падзяліцца вопытам выжывання і дасягненнямі.

Наступным разам аўтахтонам Беласточчыны не давядзецца далёка ехаць: беларусы Балтыі збіруцца ў іхнім краі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

МЕРКАВАННІ

# Маем тое, чаго вартыя...

ШТО ВОЗЬМЕШ са слабага чалавека?.. Перад тым, як адказаць на гэтае пытанне, зірнем на чалавека як асобу сацыяльную. Прычым ва ўмовах нашага ў многім незразумелага часу, жыцця, пра якое можна адназначна сказаць: "Бывай, здаровы сэнс!" Глыбокі маральны тэрор ахапіў нашу Бацькаўшчыну і зрабіў пакутлівым існаванне многіх. Ён у прамым сэнсе запрыгоніў селяніна, загнаў у беднасць яго вялікасць рабочы клас, да роспачнага стану давёў сталічную і правінцыяльную інтэлігенцыю. Грамадства нібы знямела ў чаканні невядома чаго, знемаглося ад сумненняў у перспектывах дня заўтрашняга. Проста і не ўяўляецца ўжо, якім жыццё павінна быць наогул.

Сутнасць сітуацыі сумная: згублена надзея. У студэнта — на тое, ці будзе ён запатрабаваны грамадствам як кваліфікаваны спецыяліст; у спецыяліста — ці не разваліцца вытворчасць (хоць і не вельмі шчодрая, а ўсё ж крыніца яго жыцця). Тое ж — у прамыслоўца, транспартніка, камерсанта і фермера, ледзь не задушаных падаткамі і дзяржаўным рэгламентаваннем сваёй дзейнасці. Аналагічныя сумненні адольваюць ці не ўсіх астатніх. Разгарантаваны ўклад жыцця трымае людзей у абцугах няпэўнасці, знясільвае натуру, нявечыць яе маральна. І як бы аналітычна ні падыходзіць да сацыяльна-эканамічных праблем, многаму не знаходзіцца тлумачэння. Бадай, толькі адно зразумела: грамадства за перыяд свайго пераўладкавання занадта стамілася, згубіла ўстойлівасць і развагу, дэзарыентавалася ў сваім будучым. Занадта ўжо кволым аказаўся яго стрыжань — эканоміка і вытворчасць.

Тут, як гаворыцца, не схавацца ні за які пратакол працэдурных агаворак, бо ўсё зразумела без каментарыяў. А вось у сутнасць сітуацыі нельга не зазірнуць, як і не сказаць пра яе магчымыя негатыўныя вынікі для ўсіх нас. Цяперашні вытворчы тупік — з'ява для грамадства сацыяльна-небяспечная. І яшчэ горш — ніяк яе пакуль не вырашыць. Тыя падыходы, якія ладзяцца ўрадавымі структурамі ўсіх узроўняў, інакш як "лапленнем дзірак" не назавеш. Што азначае для высакакласнага спецыяліста быць толькі паўзанятым, прыйсці на працу і не знайсці за што рукі зачапіць? Вярнуцца дамоў і бачыць, што многага не хапае на абедзенным стале; адчуваць, што заслугоўваеш лепшага жыцця, урэшце, маеш права на гэта, а яго якраз і няма. І не ты сам тут вінаваты. Усялякія памкненні выйсці з зачараванага кола жыццёвай неўладкаванасці поспеху не прыносяць...

Прымушаюць бянтэжыцца цэны ў магазінах. Адчуванне сацыяльнай неабароненасці і зніжэнне жыццёвага ўзроўню заганяюць у кут. А як моцна б'юць па нашых нервах паўсюдная валакіта і падман, становішча так званай няўстойлівай раўнавагі, якое, на жаль, стабільна захоўваецца ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства! Калі што і вырашаецца, дык толькі дзякуючы асабістым кантактам. Праведным шляхам дабрацца да ісціны мала каму ўдаецца. Бо дзейнасць дзяржаўных уладных органаў і структур празмерна зафармалізавана і заарганізавана. Ніхто, дарэчы, і не імкнецца спрасціць яе. Не ратуе нават прызнаная ва ўсім свеце камп'ютэрызацыя.

Паўстае зусім лагічнае пытанне: чаму ва ўмовах, калі ідзе спасціжэнне цывілізаванага жыцця, зацвярджэнне новых матывацый чалавечай дзейнасці, мы працягваем жыць, не мяняючы адносін да сябе? Хочам ды баімся? Так! І гэтым самым свядома шкодзім сабе. Да месца тут будзе сказаць так: наш грамадскі твар выглядае сціпла і лісліва. Лісліва — для саміх сябе, сціпла — дль тых, хто да нас прыязджае адтуль, дзе цывілізаваныя адносіны сталі даўно нормай жыцця. Справядліва заўважана: галоўнае — не тое, што ёсць, а тое, як мы сабе гэта ўяўляем. З апошнім якраз і не лады. Нашы ўяўленні далёкія ад таго, як зрабіць жыццё нармальным.

Хтосьці можа сказаць, што гэтая тэма, якая ўжо нагнала аскому, сур'ёзных аргументаў не мае. Не будзем фальшывіць у словах і, тым больш, прымаць уяўнае за жаданае — гэта бессэнсоўна і наогул шкодна. Бюракратычная ведамасная валтузня ў нас буяе зверху да нізу. Гэта наша рэальнасць, адлюстраванне агульнага стану нашага грамадства. Цывілізацыя прымушае да іншых падыходаў у многім, і не разумець гэтага — усё роўна як прыйсці на ўрачыстую вечарыну апранутым у жабрацкія лахманы мінуўшчыны. І пры такім стане спраў добрую надзею на сваё лепшае заўтра нам давядзецца апраўдваць доўга.

Сапраўды, слабыя мы людзі, калі не можам пакончыць з тым, што перашкаджае нам відавочна. Імчымся па інерцыі ў кругазвароце побыту, не зважаем на простыя рэчы, звычайныя ісціны. Не можам і не хочам спыніцца, каб зразумець, як важна кожнаму пераасэнсаваць сваё месца ў грамадстве. Замест гэтага чамусьці ўсялякую праблему імкнёмся абысці, прыгожа замаскіраваць яе слоўным вэлюмам, што, мякка кажучы, несправядліва ў адносінах да саміх сябе. У спасылках накшталт таго, што "давайце паступім пакуль так, а як быць далей — пакажа час", мы канкрэтныя і жыццёва важныя рэчы адкладваем на невядома які тэрмін. Арганізаваць пералом ці хаця б малейшы зрух у грамадскай думцы — справа для нас, здаецца, з разраду недасягальных. Бо спачатку робім, а толькі потым думаем. А падумаем, і аказваецца, што зноў нарабілі глупства, зноў нашкодзілі самі сабе.

Менавіта такой слабасцю вызначаецца ўся наша ўлада. Блукаючы па пакутах, яна заводзіць туды ўсё грамадства. Колькасна ў нас улады занадта многа: ні ў адной суседняй дзяржаве няма столькі міністэрстваў, камітэтаў, падкамітэтаў, разнастайных ведамстваў усіх узроўняў. Бяда, што паператорчасць была і застаецца тут асноватворнай; канкрэтная работа паглынаецца менавіта заняткам такога роду. Спасціжэнне цывілізаванага свету абмяжоўваецца шматлікімі паездкамі за мяжу, ад якіх дзяржаўны архіў папаўняецца рознага роду дагаворамі, пагадненнямі. І без таго нямоглая казна нясе выдаткі, а дзелавых і патрэбных зносін як не было, так і няма. Відаць, даверу не ўнушаем мы сваім партнёрам. Прычынай — усё тая ж наша слабасць. Хочам ці не хочам, а мусім гэта прызнаць. І задумацца сур'ёзна над тым, як ад яе пазбавіцца.

Паратунак найперш бачыцца ў неабходнасці спасціжэння саміх сябе. Спасціжэння ў сэнсе таго, колькі нам яшчэ плесціся ў хвасце жыцця і падзей, ім выкліканых. Бязмэтавае блуканне ў пошуках немаведама чаго і немаведама дзе. У выніку — пустыя кішэні і азадачанае чуханне патыліцы.

Часам задаю сабе пытанне: "Чаму нас так нявечыць жыццё?" І ў тыя, посткамуністычныя дзесяцігоддзі, і цяпер, калі нібыта сталі на шлях свайго нацыянальнага адраджэння, незалежнага развіцця, спасціжэння цывілізаванага ладу жыцця? Чаму іншыя без асаблівых сацыяльных хваляванняў прыбіваюцца да толку, а мы даходзім да ўсяго толькі праз неймаверныя цяжкасці? Аказваецца, каб крыху разжыцца, нам абавязкова трэба ўшчэнт збяднець; каб нешта стварыць, абавязкова многае разбурыць; каб людзьмі сябе адчуць, абавязкова абняславіцца ледзь не перад усім светам. Гэта, калі хочаце, наш твар, што аніяк не стасуецца з уласцівай нам памяркоўнасцю. Вынаходзім веласіпед замест таго, каб выкарыстаць ужо вынайдзены суседзямі (што наогул не супярэчыць міжнародным нормам). Сумняваемся і баімся там, дзе трэба дзейнічаць рашуча і напорыста. І наадварот, заўзята шчыруем там, дзе папярэдне трэба паразважаць, асэнсаваць, узважыць. Не прымаем карысных парад, бо маем, хоць і памылковую, але ж сваю думку. А колькі выдаткаў нясём ад таго, што прымаем уяўнае за жаданае? І падобнага роду неадпаведнасцей, якія сведчаць аб нашых слабасцях, можна называць многа...

У выніку маем тое, што маем. Павялічваюцца маштабы гаспадарчай разрухі. Ледзь не душыць інфляцыя. Проста бянтэжыць тое, што сярод краін Садружнасці Беларусь па сваім узроўні трывала асела пасля змучанага грамадзянскай вайной Таджыкістана. Гадамі наш народ трымаецца на мінімальным спажывецкім узроўні, бо абвешчаныя рэформы знерухомелі, дасюль нават не сфарміраваны эквівалентныя адносіны паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, іншымі галінамі. Вывад адзіны: як непазбежны аўторак пасля панядзелка, так немінучыя для нас рынкавыя адносіны. Няхай гэта будзе прыватызацыя "па Чубайсу", эканамічная інтэграцыя дзвюх ці чатырох краін, Саюз ці Супольнасць, ці нешта яшчэ накшталт гэтага. Сутнасць не ў тэрмінах і назвах, галоўнае — вынік. І, здаецца, прыйшоў ужо час канцэнтраваць увагу не толькі на пытаннях нацыянальнай незалежнасці, а і на інтарэсах нашых людзей. Час ужо падумаць пра тое, як выканаць узятыя на сябе перад народам абавязацельствы.

Перамены даўно стукаюцца ў дзверы нашага дома, больш адгароджвацца ад іх адміністрацыйнымі мерамі проста шкодна. Нельга не бачыць, як не стасуюцца старыя адносіны з новымі. Гэта як "прынцып даміно": адна падаючая фішка цягне за сабой другую. Звычайна ў такім выпадку неабходна імгненнае рэагаванне. Але пераважаюць доўгія ўступы і падыходы здалёк, звыклае імкненне цэнтра ўсё рэгламентаваць. І атрымліваецца, што ёсць каму кіраваць, але няма каму адказваць. Як выйшла, так і добра. Пратрымаліся гадок-другі на плыву, пратрымаемся, дасць Бог, і яшчэ колькі. Улады ў затоеным спадзяванні на вытворцу, а вытворца на "каціных лапках" каля ўлад — мабыць, змілуюцца ды што-небудзь перакінуць. Хаця і тыя, і другія разумеюць, што без укладання сродкаў нічога не зробіш.



Бязладдзе на вытворчасці, у эканоміцы і фінансах перакладваецца дзяржавай на плечы працоўных. І з кожным наступным годам усё больш і больш — праз цэны, падаткі, камунальныя і многія іншыя плацяжы і зборы. Невуцтва ў рынкавых умовах гаспадарання дабівае эканоміку, заводзіць у тупік вытворчасць. Так і хочацца запытаць у нашых улад: "Колькі можна жывіцца высілкамі працоўнага люду?"

Пры ўсёй разнастайнасці думак наконт гэтага нельга закрываць вочы на сумныя лічбы афіцыйнай статыстыкі, як і не разумець, што галоўная ўмова для вытворцы, прадпрымальніка — свабода. У прыняцці рашэнняў, эканамічнай адказнасці за вынікі сваёй дзейнасці. І, зыходзячы з таго, што агульны дабрабыт закладваецца ў вытворчасці, паглядзім, што яна сабой уяўляе. Прадпрыемствы дзяржаўнай формы уласнасці выпускаюць у нас 63,6 працэнта агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі. Астатнія — 36,4 працэнта прыходзяцца на долю недзяржаўных.

Тая ж афіцыйная статыстыка пацвярджае, што тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці на іх значна вышэйшыя, чым на дзяржаўных. Характэрна і тое, што тут выпускаецца тая прадукцыя і такой якасці, якая задавальняе спажыўца, а таму не залежваецца на складах. Значыць, недзяржаўныя прадпрыемствы сёння лепш упісваюцца ў сістэму гаспадарання, не сядзяць на народным карку. Ці ж трэба пераконваць у тым, што дарогу ў эканоміцы даваць варта толькі прыдатнаму ўвачавідкі, ствараць сістэму, а не цешыцца ілюзіямі бачнасці яе? Калі дзяржава вызначыла курс сацыяльна-арыентаванай рынкавай эканомікі ў імя захавання жыцця сваіх людзей, то і павінна цвёрда ісці ім. Каб не атрымалася, што ўсе жадаюць людзям дабра і дастатку, а ніхто не дае.

Сацыяльна-эканамічны комплекс Беларусі аказаўся зусім нямоглы. Дастаткова сказаць, што зношанасць асноўных вытворчых фондаў перавышае 60 працэнтаў, а ў радзе галін дасягае 90. І калі ў нашых заходніх суседзяў на душу насельніцтва выпускаецца прадукцыі на 22-23 тысячы долараў ЗША, то ў нас — толькі на дзесятую частку таго. Фон, які выразна выяўляе ўсе нашы балячкі: незадаволенасць умовамі працы, узроўнем заработнай платы, умовамі жыцця, невырашальнасцю сацыяльных праблем.

У сувязі з такой сітуацыяй для нас надзвычай актуальная праблема інвестыцыйных укладанняў, экспартна-імпартных аперацый. Большая частка апошніх прыпадае на краіны Садружнасці. Але нашы партнёры нейкія часовыя — то з'яўляюцца, то знікаюць. У выніку абмяжоўваюцца экспартныя і валютныя магчымасці, ствараюцца сур'ёзныя перашкоды ў фінансавай дзейнасці дзяржавы, расце пратэрмінаваная запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацый па пазыках банкаў, заработнай плаце.

І проста неэтычна выглядаюць на гэтым сумным фоне памкненні прадстаўнікоў улад магутным залпам ашаламіць простых людзей інфармацыяй аб нейкіх нязначных здабытках. Для іх такі ход — слабае супакаенне. Усялякае паляпшэнне чалавек адчувае толькі праз свой кашалёк і страўнік, напаўняльнасць якіх сёння вядома якая. Нельга такім чынам прымушаць да жаданага задавальнення. Тым больш, калі ўвачавідкі столькі сумніўнага...

І хто што б ні гаварыў, а ўсё ж нашы рукі ў многім занятыя пакуль не тым, чым трэба. Па старой звычцы яны яшчэ многа апладзіруюць. Вядома, святы нам патрэбны. Для праслаўлення людзей, прафесій, зямлі, гаспадароў, ураджаю, спрытных рук. Але добра, калі ўсё ў меру. У тым ліку і ў эфіры нашага дзяржтэлерадыё, пакутуючага ад дэфіцыту сапраўднай маральнасці, падчас звычайнай сціпласці, элементарнай прыстойнасці. Розум, шчырасць і сумленнасць заўсёды вызначалі і публіцыста, і радыётэлежурналіста. А разлічваць на тое, што свядомасць аўдыторыі гледачоў і слухачоў далёкая ад разумення сапраўднай сутнасці тых або іншых падзей, выклікае, сціпла кажучы, неўразуменне і горыч. Лінгвістычныя выкрутасы — зручная маскіроўка для хітрых прыстасаванцаў. Хлусня крадзе ідэю, веру ў добрае. Таму ўсім варта падумаць над тым, як будзем жыць заўтра — шчыра, сумленна ці як загадаюць?..

Гэты, назавём яго так, ідэалагічны адступ у маім роздуме зроблены невыпадкова. Ніхто не стане аспрэчваць факт, што сціпла выглядаюць на старонках газет, экранах тэлебачання тэмы працы, вытворчасці, эканомікі, фінансаў. Толькі фрагментарна прамільгне нешта, а ў астатнім — самі бачыце: бягучая афіцыйная інфармацыя, рэклама, крымінал, баевікі, секс, музыка, песні. Тое, на чым стаіць жыццё, застаецца нібы па-за кадрам, як і чалавек-стваральнік, яго справы, клопаты, праблемы. Не бяруся сцвярджаць, свядома ці падсвядома так атрымалася, але мяняць асноватворнае на малазначнае — усё роўна як падпісваць дакумент з закрытымі вачамі.

Народная мудрасць сцвярджае: калі няма хлеба на стале, думкі толькі пра яго. Дзякуй Богу, мы пакуль яго маем і спажываем, хаця і ён усё даражэе. І хочацца, каб і надалей ён быў у нас — свой, беларускі, духмяны, смачны, дастойны нас, працавітых, сціплых, праўда, занадта задураных бруднай гульнёй палітыкаў.

Здаецца, праходзіць час догмаў і авантур, усёдазволенасці, скажэнняў і замоўчванняў, уцягнення людзей у аферныя палітычныя баталіі, бессаромнага і нахабнага ашуканства іх. Пацешыліся, панове, і хопіць, час за розум брацца, за справу навядзення элементарнага парадку ў сваім уласным доме.

**Аркадзь КАРОТКІ**

*Фота С. БРУШКО*

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## Першаадкрывальнік — Ігнат Даніловіч

**Як вядома, знакаміты Літоўскі статут 1588 года працягваў дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі да 1840 года, калі яго дзеянне было афіцыйна прыпынена. Але за дваццаць гадоў да гэтага, у 1821 годзе, царскі ўрад вырашыў правесці кадыфікацыю мясцовых законаў, дзеля чаго ўтварыў у Вільні спецыяльны камітэт, у які ўвайшоў і Ігнат Даніловіч. Ён адстойваў ідэю выдання Статута ў арыгінале. Але І. Даніловіч падтрымкі не знайшоў: праціўнікі такой ідэі матывавалі гэта тым, што "ніхто з вялікарасіян не ў стане цяпер зразумець стары беларускі тэкст Статута". Статут 1588 года быў выдадзены ў перакладзе на рускую мову...**

**Ужо гэты ўчынак І. Даніловіча гаворыць за тое, каб памятаць гэтага чалавека. Але ў гісторыю І. Даніловіч увайшоў як першаадкрывальнік беларускіх летапісаў, у існаванні якіх на той час сумняваліся нават самыя аўтарытэтныя даследчыкі. Сумненням іх быў пакладзены канец, калі ў сховішчах Супрасльскага манастыра ля Беластока знайшлі рукапіс 1519 года, у якім захоўваўся арыгінальны беларускі летапіс першай паловы XV стагоддзя. І. Даніловіч даследаваў тэкст гэтага летапісу і змясціў яго ў "Дзённіку віленскім" за 1823—1824 гады. А ў 1827 годзе згаданы летапіс пабачыў свет асобнай кніжкай пад назвай "Летапісец Літвы і руская хроніка". Дзякуючы Даніловічу быў адкрыты і унікальны помнік беларускага летапісання XVI стагоддзя, вядомы сёння як "Хроніка Быхаўца", а таксама яшчэ звыш дзесяці летапісных спісаў. Працы ж І. Даніловіча "Пра літоўскія летапісы" (1840) і "Паведамленне аб сапраўдных літоўскіх летапісах" (1841) — гэта пачатак увогуле вывучэння летапісаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы. І, нарэшце, фундаментальнае выданне ў Вільні ў 1860—1862 годзе, на жаль, пасля смерці І. Даніловіча (памёр 12 ліпеня 1843 года), двухтомнага "Збору дакументаў", у якім апісана больш за дзве тысячы пісьмовых крыніц.**

**Дык хто ж ён, І. Даніловіч? Нарадзіўся 210 гадоў назад (30 ліпеня 1788 года) у вёсцы Грыневічы на Беласточчыне. Скончыў Ломжынскую школу піяраў, Беластоцкую гімназію, у 1810 годзе паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта. Ужо ў 1812 годзе атрымаў званне магістра праў, а праз два гады стаў выкладчыкам мясцовага цывільнага права Віленскага універсітэта, з 1822 года — прафесар гэтай вышэйшай навучальнай установы. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам і сярод студэнтаў, і сярод выкладчыкаў. І дзякуючы сваёй вялікай эрудзіраванасці — свабодна карыстаўся латынню і галоўнымі еўрапейскімі мовамі, і сваёй дэмакратычнасці. Таму, калі царскія ўлады разграмілі тайныя арганізацыі філаматаў і філарэтаў, І. Даніловіч аказаўся ў шэрагу тых выкладчыкаў, якім было забаронена працаваць ва універсітэце.**

**Ігнат Даніловіч падрыхтаваў да друку Літоўскі статут 1529 года, які польскі выдавец А. Дзялынскі апублікаваў у "Зборы літоўскіх законаў ад 1399 да 1529 г.", што выйшаў у Познані ў 1841 годзе. У 1837 годзе з'явілася праца І. Даніловіча "Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства".**

## У двары музея — раскопкі



**У двары дома-музея Марка Шагала ў Віцебску закончыліся археалагічныя раскопкі. Былі знойдзены прадметы побыту, шкляны, фарфоравы і фаянсавы посуд, рэшткі фундамента збудаванняў канца XVIII—XIX стагоддзяў і іншыя рэчы.**

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА*

# Францішак Багушэвіч: чытаем спачатку

### АЎТАР І АЎТАРЫТЭТ

Вывучаць беларускую літаратуру XIX ст. азначае не столькі даследаваць тэксты, колькі разглядаць ідэі, ідэалы і ідэалагічныя практыкі. Дзякуючы гэтаму яна набывае спецыфічнае адценне літаратуры няспраўджаных магчымасцяў.

Беларускія аўтары XIX стагоддзя часта пісалі не для іншых, а для сябе, — гэта была свайго роду індывідуальная творчасць. Гэтым, мабыць, і вытлумачваецца тое, *якім чынам* крытычнай думкай давалася ацэнка беларускамоўнай творчасці XIX ст.: ухвалялася само ўзнікненне таго ці іншага твора, напісанага па-беларуску, і чаго было ўжо досыць, каб змясціць твор у адпаведную хрэстаматыю.

Згодна з гэтым, творчасць таго ці іншага пісьменніка нярэдка пачыналася і развівалася ў рэжыме індывідуальнай адрасацыі: у большыні выпадкаў сам аўтар і невялікае кола яго найбліжэйшага атачэння станавіліся чытачамі, спажыўцамі гэтага твора. Таму гаварыць аб літаратурнай палеміцы, аб літаратурнай крытыцы ў гэтым часе, за рэдкім выняткам, вельмі рызыкоўна. Вядома, існавалі іншыя сцэнарыі, паводле якіх магла разгортвацца дзея, але пэўнае адно: толькі невялікай частцы масіву беларускамоўнай вербальнай творчасці ў XIX ст. удалося пабачыць свет. На гэтым фоне як постаць Багушэвіча, так і ягоныя творы становяцца выключнымі, бо яны рэальна ўплывалі на сітуацыю, правакавалі масу наследаванняў і перайманняў, і ў выніку актыўна засвойваліся, спараджаючы гучны сацыяльны розгалас.

У аўтараў адзінкавых вершаў фактычна няма *біяграфіі*, а якраз з біяграфіі і пачынаўся шлях у літаратуру як Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, так і Францішка Багушэвіча. Сам час і сама прастора прадвызначалі неабходнасць біяграфіі, бо часам якраз біяграфія абумоўлівала будучы росквіт таго ці іншага аўтара. У пэўным сэнсе ўся гісторыя беларускай літаратуры XIX ст. — гэта перадусім сукупнасць біяграфій.

Забяспечыць дасягненне непарыўнасці літаратурнага працэсу ў сапраўднасці магла толькі кніга. *Кнігай* тлумачыцца поспех літаратурнае місіі Багушэвіча. *Кніга* — гэта не толькі аб'ект-фетыш, матэрыяльная абалонка камунікатыўнага паслання, а перадусім нарматыўны спосаб бачання свету, які задае базавыя наборы сімвалаў, архетыпаў і вобразаў пры "прачытанні" рэальнасці. Але адно наданнем сэнсаў функцыя памеркаванай так *кнігі* не абмяжоўваецца: наследуючы прыродзе на макраўзроўні (*фізіс* a priori ўяўляе сабой яе сутнасць), яна, такім чынам, выяўляе другую, сукрытую кнігу: *бясконцы тэкст прыроды.*

### БЕЛАРУСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ: СПРОБА ЯШЧЭ АДНАГО АСЭНСАВАННЯ

Фактычна поўны заняпад традыцыі беларускай высокай культуры ў XVII, XVIII і на пачатку XIX стст., спробы абуджэння *мужыцкага* народа пачынаючы з сярэдзіны XIX ст. — усё гэта можа прадугледжваць сацыялагічнае прачытанне. Абрысы гэткага прачытання фармуюцца пры дапамозе наступнай схематычнай канструкцыі: беларускі народ (у абліччы беларускага племя, беларускай народнасці etc.) пасля доўгага гістарычнага небыцця і пад уплывам новых палітычных раскладаў адраджаецца амаль сінхронна з разгортваннем базісных складнікаў мадэрну ў гэтай частцы Еўропы. Гэтым былі падарваныя ранейшыя этнакультурныя і геапалітычныя расклады, запачаткаваныя яшчэ ў XVII ст., калі з беларускай шляхтай знікае па сутнасці і сам беларускі народ. Нацыю даўнейшай Рэчы Паспалітай утварала польская і літоўская (чытай: беларуская) шляхта, прычым нацыянальнасць апошняй не іграла істотнага значэння. Мяшчане і, пагатоў, сяляне (о, спрадвечна беларуская стыхія!) — *мужыкі* — да нацыі не належалі, што, зразумела, прадугледжвала і адсутнасць іх ідэнтыфікацыі як пэўнай нацыянальнасці або, інакш кажучы, іх нацыянальную дэідэнтыфікацыю. Заканамерны пераход "беларускай" шляхты ў польскае этнакультурнае ўлонне і справакаваў маштабную нацыянальную катастрофу (ці варта дадаваць, што знакамітае Купалава "людзьмі звацца" мае выразны сэнс *нацыянальнага будаўніцтва*).

Спецыфіка часавай восі, якая зрабілася своеасаблівым стрыжнем нашых развагаў, і тут выяўляецца найярчэй: па-першае, напрыканцы XIX ст. Ф. Багушэвіч праводзіць мяжу, якая аддзеліць протабеларускую этнаграфічную тэрыторыю ад іншародных этнакультурных арганізмаў. Адсюль паняцце мяжы (на сутыку часавых і прасторавых дадзенасцяў) вельмі важнае для аналізу творчасці аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Звязанае з агульнай семіятызацыяй свету, яно несла ў сабе памкненне здэфініяваць прастору, паглыбіць яе, адмежаваць ад усяго *іншага*, напоўніць яе сваім зместам. Нездарма яшчэ ў антычнай традыцыі мяжа (*πέρας*) лічылася падставай усялякага парадку і ўсялякай меры. Можна сказаць і так: *мерай мяжы паводле Багушэвіча быў Беларускі Дом.*

Такая пастаноўка пытання выкліча ў іншага справядлівую заўвагу: хіба не сам Гегель у сваёй палеміцы з Кантам выставіў аргумент, што ўстанаўліваючы мяжу мы тым самым устанаўліваем яе парушэнне і засяроджваем у сабе тое, супроць чаго яна была скіравана. Рэч у тым, што наша выказванне адносна мяжы варта разумець хутчэй у сэнсе "называння існага як такога ў цэлым", упершыню прапанаванага нямецкім мысляром Марцінам Гайдэгерам.

Па другое, факт далейшай самаарганізацыі прасторы ў гэтым часе быў арганічна запраграмаваны самой існасцю айчыннай культурнай традыцыі. Прыблізна тады з'яўляюцца і гранічныя дэмаркацыйныя пункты — паспрабуем іх устанавіць на ўзроўні персаналіяў — гэтай прасторы: Марыя Косіч з Севершчыны, Алесь Ружанец-Ружанцоў і Юрка Віцьбіч са Смаленшчыны, Мікола Янчук з Падляшша, Францішак Багушэвіч з Віленшчыны і г. д. Чаму адпавядаў гэты прасцяг на гістарычнай карце Еўропы? Гэткае пытанне можа прадугледжваць толькі адзін адказ: параметрам гістарычнай Літвы, Літвы перыяду яе росквіту.

Апрача гэтага, навідавоку таксама прысутнасць рэфлексійных нацыянальных праектаў у XIX ст. (Літва, Крыўя, Беларусь). Поспех "Беларусі" быў абумоўлены, думаецца, найперш актуальнай патрэбай самавызначэння славянскае галіны літоўскага этнакультурнага унікату, сваім прагматычным характарам, а таксама такім фактарам, як спецыфічны збег абставінаў (sic!). У гэтай сувязі надзвычай паказальнымі будуць і хістанні ў Багушэвіча (Беларусь/Беларусія), што, без сумневу, паказвае на ступень адчужэння паміж самім аўтарам і тым, што прапагандуецца ім.

Багушэвіч выбудоўвае космас на падставе таго хаосу, які ўтварыўся пасля распаду літоўскага этнакультурнага унікату. Усё гэта адбывалася на фоне нацыятворчага працэсу ў Літве, дзе ў выніку вівісекцыі *літоўскай цывілізацыі* ўзнікаюць *дзве постлітоўскія культуры.*

Галоўным палігонам для выпрацоўкі новай беларускай ідэнтычнасці становіцца віленскі арэал. І ў гэтым няма ані каліва выпадковасці. Можна сказаць нават болей: феномен Багушэвіча наўрад ці мог паўстаць у іншым кутку нашай бацькаўшчыны.

Зыходзячы з абмаляванай вышэй перспектывы, сцвердзім наступнае: часавы зрэз рубяжа XIX і XX стст. надзвычай важны для цэльнага разумення вызначальных этапаў фарміравання новай беларускай ідэнтычнасці. У пэўным сэнсе можна нават гаварыць пра пераадоленне стану дэпрэсіі айчыннай культуры, калі яна паволі пачынае выходзіць з працяглага стану "згорнутасці" і самараскрываецца як з'ява дыялагічная, скіраваная не толькі на кансервацыю архаікі, але і на пошук і фармуляванне адказаў на ўсё новыя мадэрнісцкія выклікі, якія з'яўляліся на парадку дня.

### НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ

Беспамылкова ўхопліваючы сімптомы сучаснасці, Багушэвіч адначасна намагаўся не адступаць ад праўды жыцця. Гэтая праўда жыцця была ў тым, што стан этнічнай самасвядомасці лірычнага суб'екта ў яго творах выяўляўся як парогавы. Напрыклад, Мацей Бурачок быў ужо не ліцвінам, але яшчэ не "беларусам": *ён быў тутэйшым.* Азначэнне "тутэйшы" ўяўляе сабой сярэдняе звяно ў гэтым ланцугу паслядоўнай этнакультурнай трансфармацыі (*ліцвін — тутэйшы — беларус*). У "тутэйшым", зыходзячы з дадзенага гарызонту досведу, ужо "памёр" ліцвін, але яшчэ "не нарадзіўся" беларус.

"Беларусь","беларусы" адносна Багушэвічавага апавядальніка не існуюць у цяперашнім часе, для яго гэтая справа пакуль не стаіць на парадку дня. Прычым адсутнічае сам імператыў ператварэння "тутэйшага" ў "беларуса" і застаецца надзвычай істотная магчымасць пераходу "з тутэйшага ды ў палякі!". Больш таго, *лірычны герой Багушэвіча насамрэч нічога не ведае аб "Беларусі"*. "Беларусь" для яго — нешта абсалютна непрадметнае, таму што яна знаходзіцца ў поўнай кампетэнцыі аўтара, місія якога і палягае па вялікім рахунку ў прапагандаванні міфа "Беларусь" як адной з мадэляў магчымай рэальнасці.

Такім чынам, парогавы стан фармуе не *пазітыўную*, а *негатыўную* этнічную ідэнтыфікацыю суб'екта: *ён ужо не "паляк"-"маскаль"-"жыд"-"немец"*(цікава, што жмудзінаў, адных з продкаў сучасных летувісаў, для Мацея Бурачка як бы наогул не існуе, хаця ён — насельнік паўзмежжа, дзе сутыкаюцца перадусім беларуская і летувіская, кажучы сучаснымі тэрмінамі, этнакультурныя стыхіі; парадокс сітуацыі, магчыма, у тым, што для жмудзіна ён сам спантанны, калі так можна сказаць, каланізатар, што імпліцытна артыкулюецца ў формуле народнай мудрасці: "На Жмудзі і куры людзі"), але яшчэ *не "беларус"*. Не выключана, што беларусам яму так ніколі і не наканавана будзе стаць — тыя мясціны, сярод якіх праходзіць жыццё лірычнага суб'екта, Вільня, Рыконі, Кіяны — цяпер не маюць фактычна нічога супольнага з беларускасцю.

Этнічная палітра толькі гэтым, аднак, не вычэрпваецца. Сваімі творамі Багушэвіч адносіць да нас паказальныя характарыстыкі іншанацыянальнай прысутнасці ў прыроджаных прасцягах асялення "беларуса". "Маскаль" — тут і далей гаворка ідзе не пра канкрэтных прадстаўнікоў пэўнай нацыянальнасці, а пра іх "калектыўны цень", адлюстраваны ў свядомасці лірычнага героя — гэта агрэсіўная істота, якая нярэдка прыносіць з сабой ліха (прыгадаем народнае: "З маскалём дружы, але камень за пазухай дзяржы"). Лірычны герой Багушэвіча трохху нават баіцца "маскаля":

***Маскалі ж у вёсцы яшчэ не паснулі,***
***Праляці ж, кабыла, каб яны не чулі!***

Не такія ўжо і доўгія, але інтэнсіўныя ўзаеміны з "маскалём" навучылі, што яго лепей абыходзіць стараной (відаць, невыпадкова, што для беларуса людзей свет, а для "маскаля" *людзей тьма*). Сутыкненне ж з "маскалём" немінуча вястуе глум:

***А маскалі цягнуць мяне, як сабакі.***
***Білі, білі ў плечы, пацягнулі гдзесьці...***

Больш роўнае стаўленне назіраецца да "паляка". Сам сабой ён фігуруе рэдка, таму што ў свядомасці лірычнага суб'екта ўсё яшчэ захоўваюцца рудыменты даўнейшай схемы іерархічнага ўладкавання Рэчы Паспалітай: *калі для яго паляк — гэта "пан", то для паляка ён — "мужык"*:

***Давялося ж і мне быць на велькім судзе,***
***На акружным судзе, гдзе усе ў грамадзе:***
***Мужыкі і паны, маскалі і жыды...***

Не столькі ад "пана" церпіць лірычны суб'ект, колькі ад рэпрэсіўнага апарату расійскай каланіяльнай адміністрацыі і яго ананімных інстытуцый. Дый сам "пан" у гэтым кантэксце набывае не толькі сацыяльную, але і нацыянальную дыстанцыю. Зрэшты, сітуацыя імкліва змянялася — расійская каланіяльная палітыка пасля паўстання 1863 г. прадугледжвала, як вядома, карныя захады і ў дачыненні да абшарнікаў з карэнным паходжаннем, так што ў Заходняй Беларусі канца XIX стагоддзя абшарніцкія землі пераходзілі ў расійскую ўласнасць. Таму "пан" у Багушэвіча — часта сінонім іншамоўнага каланізатара і дэнацыяналізатара, уладальніка зайздросных дабротаў свету, валадара гэтай паняволенай зямлі або яго памагатага з мясцовых рэнегатаў. Стаць панам азначае перастаць быць самім сабой, здрадзіць запаветам сваёй зямлі. У вершы з сімвалічнай назвай "Афяра" як найшчыльней скандэнсавана нацыянальна афарбаванае пачуццё лірычнага суб'екта:

***Маліся ж, бабулька, да Бога,***
***Каб я панам ніколі не быў:***

## Свята музыкі і паэзіі

На Петрыкаўшчыне дзве вёскі Навасёлкі. Малыя (паблізу райцэнтра) — радзіма нашага нацыянальнага героя дзеда Талаша, персанажа знакамітай аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". Вялікія ж далі беларускай літаратуры вядомага паэта Алеся Дудара. У апошняй і сёння жыве шмат народных умельцаў, прыхільнікаў роднай культуры. Нездарма менавіта тут на Тройцу сабраліся лепшыя музыкі і спевакі гэтага куточка нашага краю.

Тон святу задалі гаспадары — іх дзіцячы ансамбль, фальклорная група "Галасы Палесся". Прысутных шчыра парадавалі сваім выканаўчым майстэрствам Сцяпан Сялюк, Тамара Шарамет і Уладзімір Кісялевіч з вёскі Бабунічы, Вера Дземідзюк, Іван Кумпал, Вольга і Міхаіл Плыткевічы з Чалюшчавіч, Марыя Кузняцова і Фёдар Гарыцкі з Камаровіч, Уладзімір Сокал, Уладзімір Кот, Аляксандр Дзямідка, Юрый Глушко і Ігар Маскальчук з Міхедавіч, Пётр Фядосік і Алена Курчыч з Лучыц, Іван Даніленка і Вольга Арцёмава з Залесся.

Вынікі выступлення падвёў загадчык райаддзела культуры Аляксандр Бічан. Выказаў надзею, што такія фестывалі самадзейных артыстаў пройдуць і ў іншых вёсках, уручыў калектывам падарункі і граматы.

Потым адбылася прэзентацыя кнігі паэзіі Алеся Лісіцкага "Сны ля Убарці". Пра творчасць земляка гаварылі дырэктар мясцовага СДК Марыя Сенька, дырэктар ЦРБ Ларыса Чарнагаева, рэдактар райгазеты "Петрыкаўскія навіны" Іван Самахвалаў, былая настаўніца Ніна Марціноўская. Свае творы са сцэны чыталі сябры паэта — настаўнікі мясцовай школы Міхась Селех і Уладзімір Пугач, а таксама Марыя Шэнец, Генадзь Брэзіцкі, Ганна Бамбіза.

Прачытаў свае новыя вершы і адказаў на пытанні прысутных і віноўнік урачыстасці.

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Навасёлкаўскага СДК падрыхтавалі ў гонар земляка цікавую канцэртную праграму.

Дырэктар саўгаса "Навасёлкі" Сяргей Дударэнка выказаў надзею, што неўзабаве вяскоўцы зноў збяруцца ў зале з нагоды выхаду кнігі лірычных замалёвак пра прыроду настаўніка Уладзіміра Пугача, якая павінна ўбачыць сёлета свет у выдавецтве "Ураджай".

А. ЛАРЫЁНАЎ

## У сферы ўзаемадачыненняў

Пяты нумар бюлетэня "Кантакты і дыялогі" (нагадаем, што яго выпускаюць Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі) па традыцыі адкрываецца раздзелам "Даследаванні, артыкулы". У ім змешчаны артыкулы В. Болбаса "На скрыжаванні еўрапейскіх павеваў. Маральны ідэал у педагагічнай думцы Беларусі эпохі Адраджэння", Л. Юрэвіча "Літаратурны рух беларускай эміграцыі", К. Усовіча "Каб стаць сусветным цэнтрам скарыназнаўства", С. Віцязя "Беларусі патрэбна даведачна-інфармацыйная сістэма па культурнай спадчыне".

Пазнавальная публікацыя А. Каўкі "Невядомы ліст пра перасяленне беларусаў" прапанавана ў раздзеле "Пошукі, знаходкі". А. Каўка адшукаў у архіве сярод папер акадэміка Я. Карскага ліст, напісаны адным з Бялыніцкіх-Біруляў (акрамя знакамітага мастака быў, як вядома, яшчэ і якуцкі "камісар" з такім прозвішчам), у якім робіцца ўдакладненне да знакамітай працы "Беларусы" адносна "рассялення беларускага этнасу".

Чарговыя старонкі будучага даведніка "Беларускае замежжа" прадстаўлены персаналіямі пра ўраджэнца Беларусі, рускага і польскага пісьменніка і журналіста Аляксандра Гзоўскага (аўтар — В. Скалабан) і пра жывапісца Пётру Мірановіча (С. Сачанка). Тут жа У. Сакалоўскі расказвае пра нямецкага гісторыка і палітолага Ёханеса Шлоца, які працуе на ніве беларусазнаўства. Змешчаны нататкі пра тых, хто пайшоў з жыцця — Анджэя Кэмпфі і Міхася Тулейку.

Э. Дубянецкі і Т. Махнач рэцэнзуюць адпаведна першую і другую частку манаграфіі Ц. Ліякумовіча "Янка Купала и русская литература". Багаты бібліяграфічны раздзел "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце". Змястоўная "Хроніка беларусазнаўчага жыцця". Ёсць падборка "З рэдакцыйнай пошты".

ПАЭЗІЯ

Алесь ЧОБАТ



# Вянок баладаў

### Балада пра Дануту Бічэль

*Ні красць я не ўмеў. Ні такназбіраць.*
*І вісеў нідзе — як выгнанец вісіць.*
*І мяне нікуды не хацелі браць —*
*і дарэмна было кагокольвек прасіць.*

*Ды знайшлася Данута Бічэль на зямлі,*
*запаліла ў музеі Максіма святло.*
*Там жывыя і мёртвыя разам жылі —*
*і мне дзесяць гадоў там месца было.*

*Цесна беднаму люду жыць.*
*Грошы пякуць — як горла смала.*
*Бедны люд вішчыць і дрыжыць...*
*Данута Бічэль іначай жыла.*

*Грошы прапалі — і хам прападзе.*
*Паэт мусіць жыць — колькі кажа Бог.*
*А т а м у чарзе ідуць па чарзе —*
*і з грашыма не ўлезеш за Вечны Парог.*

*І хоць малітваў мацней вайна,*
*і хоць дабрыня слабей свалачэй,*
*а на Крэсах гэтых толькі адна*
*ўмее жыць і пісаць Данута Бічэль.*

### Балада пра Уладзіміра Захарава і гішпанскую гітару

*Калісьці нашыя пралетарыі*
*ў працэсе класавай барацьбы*
*забралі сабе гітару з Гішпаніі —*
*і зрабілі з яе інструмент шпаны.*

*І прапала ў гітары гукаў свабода.*
*Шэсць акордаў блатных выбівалі з яе.*
*Але ўзяў яе ў рукі Захараў Валодзя —*
*і на кожнай мове гітара пяе.*

*У яго не гітара, а сэрца паэзія —*
*ён яе навучыў слухаць Нёмана гул,*
*ён яе абярог ад бяздушнай плесні*
*і свабоднай яе на радзіму вярнуў.*

*У Гішпаніі слухалі тлумы народа*
*нашых вулічак сум, светлы дождж у акне...*
*Калі хочаце мець на Айчыне свабоду,*
*не прасіце яе, а рабіце яе.*

### Балада пра бацьку бруднага беларускага блюза Віктара Шалкевіча

*Даўно да мора паплыла адгэтуль рэчка,*
*а сум адвечны спаць да ранку не дае —*
*жыдоўскай скрыпачкі прапашчае мястэчка*
*Шалкевіч Віктар сіл сваіх вышэй пяе.*

*Мястэчка мела на сабе уладаў дзесяць,*
*паноў штук сорак і саветаў сорак пяць,*
*а немец мог яго спаліць і мог павесіць,*
*а потым гразь гуманітарную прысляць.*

*Цяпер няма ні тых людзей, ні тых імёнаў,*
*і шваль наезная не чуе іх праклён.*
*Цяпер з дзяўчынай не прытулішся*
*пад клёнам —*
*даўно пад корань спілавалі стары клён.*

*Шалкевіч Віктар плакаць мог бы,*
*а жартуе —*
*жыць нецікава з беларусамі ў слязах!*
*А ён артыст, ён робіць выгляд, што не чуе*
*адчай у сэрцы і ў душы правал і жах!*

### Балада пра сустрэчу і расстанне

*Балада пра сустрэчу і расстанне*
*і шлягер пра няўдалае каханне*
*ёсць песні розныя — і кожнай песні час*
*сустрэне кожны з нас на свеце раз.*

*Баладу з шлягерам няможна*
*душам блытаць,*
*іначай анямее ў душах літасць,*
*на языках людскіх сліна ўскіпіць —*
*і з нас да смерці не забудуць кпіць.*

*Балада цягнецца заўжды даўжэй за шлягер,*
*так доля цягнецца даўжэй за суд і лагер,*
*так восень цягнецца і сыпле лісця медзь,*
*так цягнецца жыццё даўжэй за смерць...*

### Балада пра Рудольфа Пастухова

*Слонім. Восень. Ранняя, як у сне...*
*Пуста. Свет — як на нейкім дне.*
*Сам не веру. Так не бывае.*
*Над маёй галавой у светлай труне*
*Пастухоў Рудольф праплывае...*

*Над зямлёй без вартаў і без ахоў*
*сам плыве паэт Рудольф Пастухоў.*
*Не шукае долі ў народзе —*
*ён цяпер на свабодзе.*
*Ён не ў коле варожым,*
*ён цяпер толькі Божы,*
*перажыў суму і турму —*
*і жывыя зайздросцяць яму...*

*Чалавек жыве выпадкова —*
*што ў тым Слоніме, што ў Маклакова.*
*Сумна будзе на свеце*
*жыць мне без Пастухова.*
*Зашуміць па ім вецер,*
*дожджык пральe слязу,*
*прарасце над ім слова,*
*стане ясна і нова —*
*пастаю над яго магілай,*
*на Неба яго пагляджу...*

*Слова нікога не адратавала,*
*зло заўсёды мацней дабра,*
*пакаленне нічога не адваявала,*
*у бяздонне зацягвае нас дзіра,*
*не патрапіць у рай, хто пражыў паэтам,*
*не цярпеў ні вартаў і ні ахоў —*
*і таму сам сабой над бяздомным светам*
*праплывае паэт Рудольф Пастухоў,*
*праплывае вышэй*
*і раю, і пекла,*
*над усімі намі лёгка ляціць,*
*і на доле ў Слоніме робіцца светла,*
*толькі Шчара плача,*
*бо ёй баліць...*

### Балада пра мяне, пра жонку Любу і пра чорнага коціка Юстаса

*Ранак на Беларусі.*
*Зіма. Канчаецца год.*
*Слухае радыё Юстас.*
*Чорны бліскучы кот.*

*Божа, пакінь надзею,*
*не забірай яе,*
*што Юстас не разумее,*
*як гэты свет жыве.*

*Пішу я нешта. Стараюся.*
*Кожны няшчасны дзень.*
*Жонка Люба на працы*
*лечыць тутэйшых людзей.*

*Гоіць хворыя зубы.*
*Гоніць дакучны боль.*
*Добрая праца ў Любы.*
*Лепшая іншай любой.*

*Гадкі ў мяне занятак,*
*а сэрца даўно не ляжыць —*
*які прыдумаў заўзятар,*
*што можна душу лячыць?!*

*Тым больш, калі душы цесна*
*і адгэтуль душа ўцякла —*
*лячу я пустое месца.*
*Ад марозаў да цяпла...*

### Балада пра гаспадара забягалаўкі "Батлейка"

*На свеце страшна. На свеце гола.*
*Беларусь співаецца ў дрыбадан.*
*Не п'е адзін Таранда Мікола,*
*адначасова і пан, і спадар.*

*Таранда — спадар палітклуба "Паходня".*
*Там пляткуюць дзесяць гадоў*
*дзяды з залатога пенсійнага фонда*
*і сапляки з апошніх радоў.*

*Таранда — пан паграбка "Батлейка".*
*Піва з лікёрам лье папалам.*
*Там ужо спіўся Юра Карэйва*
*і цэлы Фонд Сораса ў свой семінар.*

*А што б тут рабіла наша разведка?!*
*Нічога б яна не зрабіла тут...*
*Але Таранда — эпохі сведка.*
*Таранда зробіць капут. Без пакут.*

### Балада пасля балю

*Не хачу на Павонзкі ці Новадзевічае.*
*Бо спакою ад Крэсаў нідзе не чуеш.*
*Не хачу выпіваць*
*з Аляксеем Пяткевічам —*
*з ім гарэлку нават адно змарнуеш.*

*Лезла вёска і лезла — і павылазіла.*
*Не хачу ўплятацца ў тутэйшы букет.*
*Тут заморскім гасцям лепяць*
*honoris causa*
*і спяваюць, што маюць Універсітэт.*

*Не хачу я клікаць. Хачу, каб не клікалі.*
*Не хачу з элітай губляць зрок і слых.*
*Не друкуйце мяне тыражамі вялікімі,*
*а пазбаўце мяне ганарараў малых.*

*Не хачу багацця. Пазбаўце беднасці.*
*Нашы Крэсы бедныя на людзей.*
*Тут супольна здыхаюць бедныя ў еднасці*
*і аднолькава прагнуць тых самых падзей.*

### Балада пра эсэістку і маралістку Алу Петрушкевіч

*Што свет шалёны — няма вінаватых.*
*Хоць польская ўласць,*
*хоць савецкая ўласць...*
*Крадуць маёнткі, фальваркі і хаты —*
*у нас немагчыма жыць, каб не красць.*

*Месяц за месяцам. Год за годам.*
*Крадуць маральна. І без маралі.*
*Я абакраў Багдановіча з Бродскім —*
*графаманы з Гродна мяне абакралі.*

*Не паспявае рука за ротам.*
*Жраць заўтра захочам, бо ўчора жралі.*
*Зніклі са свету годнасць і гонар —*
*нядаўна міліцыю абакралі.*

*Крадуць усе. Хто многа, хто мала.*
*Крадуць з бяды. Крадуць з настальгіі.*
*Не крадзе адна Петрушкевіч Ала —*
*за яе шчыруюць людзі другія.*

### Балада пра тутэйшую веру

*Разбітае войска ідзе дахаты...*
*Дык хто вінаваты, што гіне жыццё?!*
*Грашаць штодзённа адны схізматы —*
*а каталікам дазволена ўсё.*

*З крыкам дзеляць прапашчую славу —*
*як жабракі калісь медзякі!*
*Жыццё трымаецца на праваслаўных —*
*а шкодзяць толькі лаціннікі.*

*Ісус — як лекі. Так мрояць калекі.*
*Тысячу раз адбыўся раскол —*
*і кожны хаваецца за маленькім*
*прыватызаваным Ісусам Хрыстом...*

### Балада пра Гродзенскі панямонска-творчы асяродак

*На свеце кожны нечага хоча.*
*І кожны мае сваё — па чарзе.*
*У небе Юрка Голуб вуркоча,*
*а Ігар Жук — на грунце паўзе.*

*Чарку лішнюю не перакуліш!*
*Пільнуе кожны — як на вайне.*
*Цікуе ў кустах прафесар Мікуліч,*
*дацэнт Патрэба — дзе трэба і не.*

*Адно сумленне на гэтай планеце.*
*Ёсць з кім гной пускаць і раны гаіць!*
*Насупраць Леніна на пастаменце*
*паэт Алесь Чобат самотна стаіць.*

*Ён праўду ўхваліць і ў морду ўваліць*
*усім народам і ўсім часам —*
*таму ніхто яго не пахваліць,*
*калі ён сябе не пахваліць сам.*

ПРОЗА

Таццяна МУШЫНСКАЯ

# АСФАЛЬТАВЫ КАТОК

АПАВЯДАННЕ



ЧАС АД ЧАСУ яму сніўся адзін і той жа сон. Як быццам каток, грувасткі і цяжкі, якім звычайна ўкатваюць асфальт, пачынае марудна, але няўхільна рухацца па схіле шасейкі. Уніз, у лагчыну. Рухацца сам па сабе, без кіроўцы. Хуткасць катка расце, а ён ўсё бяжыць наперадзе яго і спадзяецца, што каток яго не дагоніць.

Але адлегласць паміж імі няўмольна памяншаецца. У той момант, калі ён ужо апошнім краем свядомасці разумеў, што прыйшоў ягоны канец, усё! — зараз гэтая аграмадзіна з цяжкага і абыякавага металу прыдушыць яго без усялякай літасці, спляжыць, уціснe назаўсёды ў гарачы яшчэ і мяккі асфальт, — у гэты момант ён звычайна прачынаўся. І колькі імгненняў бездапаможна хапаў ротам паветра, як рыбіна, выкінутая на бераг. Не мог зразумець, дзе ён і што з ім адбываецца, хоць звыклыя рэчы сведчылі, што знаходзіцца ён ва ўласнай хаце, у ложку, што побач мірна і спакойна спіць жонка. Да раніцы ён ужо звычайна не мог заснуць і адысці ад здранцвення, перажытага ў сне, ад сваёй безабароннасці і бездапаможнасці.

Расказаць пра свой сон каму-небудзь, найперш, жонцы, ён не мог. Справа ў тым, што менавіта яе ён і ўспрымаў у рэальным, паўсядзённым жыцці тым самым асфальтавым катком. Тым, ад якога няма паратунку.

Калі б глянуць аб'ектыўным, непрадузятым вокам, дык, напэўна, у ёй можна было адшукаць нешта добрае. Бо інакш ён у рэшце рэшт ажаніўся не з ёю, а з кім-небудзь іншым. Нешта ж падштурхнула яго менавіта да яе! Але зараз, праз пятнаццаць гадоў пасля той падзеі, ён не мог сказаць канкрэтна, што менавіта падштурхнула.

Іншым разам яму здавалася, што ўнутры яе, сёння ўжо не надта маладой і не надта прыгожай кабеціны, якая апошнім часам пачала чамусьці вельмі хутка старэць, існавала дзяўчынка — мілая, сімпатычная, чулая, якая калісьці і спадабалася яму. Але тая дзяўчынка ўпарта не хацела выходзіць на белы свет. Чаму — ён не ведаў. Мільгане тое прывабнае аблічча на нейкую хвіліну, на нейкае імгненне — і зноў знікне. А перад ім — звыклы твар нахабнай і агрэсіўнай бабы, якая ўсюды — дзе трэба і дзе не трэба — лезе камандаваць.

Цікава, як не абрыдне ёй усё жыццё кіраваць? Прычым, усімі, хто трапляе ў поле яе зроку. Хто што павінен рабіць, дзе, калі, як — усё ёю дэталізавана і канкрэтызавана. Ніякіх адхіленняў ад зададзенай праграмы. Крок налева, крок направа — ну калі не расстрэл, дык добрая пачостка.

Можа, ёй трэба было стаць вялікай начальніцай, каб свой неўтаймоўны пыл кіраўніка і арганізатара яна магла рэалізаваць на рабоце, а для мужа і сям'і яго ўжо не заставалася б? Але ж якая з яе начальніца, калі яна зусім не разумее чалавечай псіхалогіі? Асфальтавы каток можа кіраваць людзьмі? Не, толькі ўтрамбоўваць.

Ягоная жонка займаецца, дайце веры, мастацтвам. Эксперт па кіно! Ёлы-палы! У людзях нічога не разумее, у жыцці не разумее, а ў мастацтве, значыць, разумее? Прысуд чужым творам выносіць... Ад яе залежыць лёс пэўных твораў і пэўных творцаў... Абсурд! У нармальнай дзяржаве такіх людзей блізка б да мастацтва не падпусцілі. Але хто сказаў, што мы жывём у нармальнай дзяржаве?

Некалі, вельмі даўно, яшчэ ў студэнцкія гады, ён пісаў апавяданні. Іх хвалілі і нават друкавалі. Чаму ён перастаў іх пісаць, ён і сам не мог бы сказаць. Чамусьці перастаў. Каб і надалей пісаць апавяданні, трэба было кінуць гэтую жанчыну — з яе цыгарэтным дымам, з яе бясконцымі і нічым не апраўданымі амбіцыямі, яе неахайнасцю і тыднямі нямытым посудам у ракавіне. З яе заўсёдным вэрхалам у хаце, калі ніколі нічога з патрэбных рэчаў знайсці немагчыма. З яе бясконцымі і нікому непатрэбнымі размовамі па тэлефоне, калі пятай па чарзе сяброўцы пяты раз расказваецца адно і тое ж, а ўсе ў кватэры павінны цярпліва і моўчкі выслухоўваць гэтую лухту... Каб пісаць і надалей, трэба было пакінуць яе і некуды з'ехаць. Назусім. Але, пакідаючы яе, ён быў бы вымушаны пакінуць і дзяцей. А гэтага ён зрабіць не мог.

А калі жыць з гэтай жанчынай і кожны дзень бачыць яе на кухні і ў спальні, і цярпець з дня ў дзень яе распараджэнні, дык лепш наогул нічога не пісаць. Тым больш, калі разважаць цвяроза, за апавяданні мала плацяць. А грошы былі патрэбны заўсёды, дзень пры дні. Колькі б ён ні зарабляў, заўсёды іх было мала, заўсёды не хапала.

Свой інтарэс да іншых жанчын і незвычайную прыхільнасць да моцных напояў сам ён успрымаў як спробу хоць часовага, але паратунку ад жонкі. Цікава, што ў перыяды запояў сон пра асфальтавы каток яму ніколі не сніўся. І каб гэты сон ніколі больш не прыходзіў да яго і ніколі не вяртаўся, ён быў гатовы піць усё астатняе жыццё, і ён піў — у кампаніях і ў адзіноце, па святах, нечых днях нараджэння і нейкіх прэзентацыях. Пасля прыстойнай порцыі зелля звычайна ляжаў на ложку і ў забыцці, бы трызнячы, думаў: няўжо пушкінская казка пра рыбака і рыбку бессмяротная таму, што яна адлюстроўвае універсальны характар сямейных адносін і ўсеагульны характар стасункаў між мужам і жонкай? Няўжо ва ўсіх так — было, ёсць і будзе? Ці ўсё ж такі недзе бывае інакш?

Ён думаў пра тое, што робіць жанчын маральна больш дужымі ў параўнанні з так званай моцнай паловай чалавецтва. Якасці сцервы, якіх часцей за ўсё цалкам пазбаўлены мужчыны? Ці магутны прыродны інстынкт, жыццёвая трываласць кошкі? Тая, з якога б паверха яе не скінуць, усё роўна жывой застанецца. А можа, уся прычына ў жаночай звяглівасці? Ці ва ўменні спекуляваць на адданасці мужчыны сям'і? Бо маці, якая б дурная і недалёкая яна ні была, усё роўна бліжэй да дзяцей, чым бацька. Бліжэй нават біялагічна. Няхай бацька найлепшы, а маці — найгоршая, усё роўна дзеці будуць на яе баку.

Часам яму прыходзіла ў галаву здагадка, што з іншай жанчынай ягонае жыццё склалася б зусім інакш. Але гэтая здагадка мільгала недзе ў глыбіні свядомасці і не выклікала ніякага працягу.

Аднойчы, знаходзячыся ў гэтым дзіўным стане — і не п'яны, і не цвярозы, ён чамусьці ўспомніў сваю аднакурсніцу, з якой некалі яны сустракаліся "на бульбе". Дзіўнае супадзенне — яе звалі гэтак жа, як завуць ягоную цяперашнюю жонку. Ён успомніў, што яны сядзелі на лавачцы ля хаты, дзе яна жыла, і пра нешта гаварылі. Цалаваліся ці не, ён зараз дакладна не памятае. Усё можа быць... Але тады яна сказала — з нейкім прыхаваным болем:

— Ну, чаму ты такі? Злосны... нібы іголкі з цябе тырчаць... ні пра кога слова добрага не скажаш... Калі я на цябе гляджу, дык чамусьці заўсёды ўспамінаю хлопчыка Кая з казкі "Снежная каралева"...

Ён пасміхнуўся з яе слоў:

— Што ты выдумляеш?

А сам падумаў, што калі ён бачыць у людзях нешта дробнае, смешнае, недарэчнае, дык чаму не пасмяяцца — сам сабе або ўслых? Хіба ён вінаваты, што іншыя гэтых якасцей не бачаць, а таму не смяюцца? Тым больш, што ў кожнай кампаніі заўсёды ёсць нехта, з кім разам можна было пасмяяцца з іншых, пакпіць. У гады юнацтва і маладосці ён пасміхваўся са сваіх аднакласнікаў, аднакурснікаў, знаёмых. Пасміхваўся з іхняга знешняга выгляду, недарэчнага адзення, не там зробленага націску, з таго, што яны не ведаюць славутых на ўвесь свет прозвішчаў. Ён пасміхваўся, бо ў кожным з тых, з кім зводзіла яго жыццё, ён бачыў заганы. Але з цягам часу сталася так, што тыя, з каго ён пасміхваўся, каго крытыкаваў, пачалі паціху, неяк неўпрыкмет абганяць яго. У іхнім абліччы, у тым, што яны рабілі, было ўсё менш і менш смешнага і недарэчнага.

Апошнія гады ён піў шмат, часам свядома напіваючыся да непрытомнага стану. Бо ў рэальным жыцці, у сваёй свядомасці ён ніяк не мог спалучыць тры розныя вобразы сябе самога. Першым вобразам быў той маленькі хлопчык, якім ён быў у дзяцінстве, — добры, ласкавы, пяшчотны, якому мама некалі спявала калыханкі. Ад таго хлопчыка засталося ў зусім няшмат, пэўна, толькі водгулле. Цяперашні ён быў іншы — яхідны і нават крыху здзеклівы. А можа, гэта трэба было б назваць інакш — дасціпнасцю? Улюбёным заняткам яго, цяперашняга, было ператвараць сваё і людское жыццё ў суцэльны гумар, блазнаванне і кпіны.

Трэці вобраз быў самы складаны. Ён не вельмі выразна вымалёўваўся ў ягонай свядомасці. Ён, цяперашні, павінен зрабіцца іншым — не крохкім і далікатным, а ўсемагутным, каб нарэшце перамагчы і падпарадкаваць сабе тую ... не, не жанчыну, а дурную бабу (іншага слова ён не мог прыдумаць), якая па нейкай іроніі лёсу аказалася разам з ім у адной кватэры, на адной кухні і, вядома, у адным ложку.

Але зрабіцца ўсемагутным і перамагчы яе ў яго не было сілы. Напэўна, ён быў зроблены з нейкага іншага рэчыва, чым яна. З рэчыва больш крохкага і далікатнага. Як ён мог змяніць сябе? Тады ўсё жыццё ад нараджэння трэба было пражыць інакш. З іншымі бацькамі, у іншай сям'і, сярод іншых сцэнаў.

Розумам ён усведамляў, што жыццё не надта песціла ні ягоную жонку, ні яе маці, ягоную цешчу. Некалі даўно яе кінуў муж, пайшоў да другой. Ёй, яшчэ маладой жанчыне, давялося адной гадаваць дваіх дзяцей. Ён разумеў, што жыццё зрабіла і ягоную жонку, і ягоную цешчу менавіта такімі, якія яны ёсць, — не дужа чулымі, не дужа тактоўнымі, прамалінейнымі і... моцнымі. Ім трэба было выжыць, ацалець, уратавацца, а таму выкінуць са сваёй жыццёвай лодкі ўсё тое, што перашкаджала, з-за чаго лодка магла перакуліцца і патануць, тое, што здавалася непатрэбнай інтэлігенцкай сентыментальнасцю, смешнай і старамоднай чуллівасцю.

Калі ён пачынаў піць, дык тры гэтыя ўласныя вобразы не мучылі яго сваёй адасобленасцю. Выпіўшы, ён быў такім, якім хацеў быць. І што скажа гэтым разам жонка, яго зусім не цікавіла. Усе пакутлівыя пытанні, ўсе невырашальныя праблемы знікалі тады неяк самі па сабе.

Аднак, падобна на тое, ягоная жонка, ягоны асфальтавы каток, гэтак не думала. Калі ў яго пачынаўся чарговы перыяд вясёлага і бесклапотнага жыцця, які ў народзе называюць ёмістым і кароткім словам "запой", яна пачынала пілаваць яго, выхоўваць, урэшце ўчыняла скандал, плакала і бедавала. Калі ж усведамляла, што слёзы ніякага выніку не даюць, тэлефанавала ягоным бацькам, каб тыя далі яму прачуханца.

Жончыны слёзы ён яшчэ так-сяк мог трываць, але калі ў тэлефонную трубку пачынала плакаць маці, ён трываць не мог, і абяцаў маці ўсё, абы толькі яна не плакала. Абяцанняў гэтых, праўда, хапала не надоўга.

Але, шчыра кажучы, і цвярозаму яму было не лягчэй. З самага пачатку іхняга сумеснага жыцця жонка выхоўвала яго з дня ў дзень, дакарала, што ў іх мала грошай, што іх заўсёды не хапае, што яны ніяк не могуць вылезці з даўгоў. І ён пагаджаўся, і мусіў увесь час шукаць нейкія дадатковыя заробкі.

Потым яна грызла яго за тое, што, маючы дваіх дзяцей, яны ўсё яшчэ не маюць прыстойнай кватэры, а ўсе яе найлепшыя сяброўкі — маюць. І не абы-якія — трох- і чатырохпакаёвыя! Гэта толькі ён — такі разёпа і цюхцяй, не думае пра ўласныя інтарэсы, а ўсё для некага стараецца, сабе ж самому нічога не можа выбіць!..

За некалькі гадоў ён неверагоднымі намаганнямі ўсё ж здабыў ёй тую кватэру. Лепшую, чым яна нават і марыла. Дзе па калідоры можна было ездзіць на веласіпедзе!..

І галоўным прадметам яе гонару стала акурат тое, што колькасць пакояў і квадратных метраў ў іх непараўнальна большая, чым у іхніх бліжэйшых сяброў. І ён разумеў, што якраз гэтая акалічнасць давала ягонаму асфальтаваму катку неаспрэчную перавагу ў гутарках з сяброўкамі. Ён заўважыў, што голас яе гучаў падчас такіх размоў з асаблівай упэўненасцю, гонарам і ўсведамленнем маральнай перамогі.

Пасля наваселля ён думаў, што цяпер яна нарэшце супакоіцца. Але ж, як вядома, мяжы жаночым жаданнем няма. Часам, засынаючы, ён чуў, пра што яна гаварыла — ужо ў выглядзе абрыўкаў, асобных слоў, і думаў: цікава, яны ўсе такія ці гэта толькі яму трапіўся такі рэдкі, экзатычны экземпляр?

Пасля кватэры трэба было "прабіваць" тэлефон, потым — мэблю. Потым трэба было нешта пабудаваць на дачы. Яшчэ пазней у хаце трэба было рабіць капітальны рамонт. І гэтак — да знямогі. Колькасць задач, якія акрэслівала яна, а выконваць, натуральна, павінен быў ён, падавалася бясконцай.

Калі ён спрабаваў пярэчыць — маўляў, можа, увогуле не трэба ўсё гэта распачынаць, яна казала, што ён эгаіст і думае толькі пра сябе. Яна ўпікала і параўноўвала яго з мужамі сяброўак, суседзяў і знаёмых. Параўнанне было, вядома, не на яго карысць. І ў чарговы раз праклінаючы ўласную мяккацеласць, ён вымушаны быў падпарадкоўвацца гэтай жанчыне.

Яна кіравала ім, як хацела і як лічыла патрэбным. Самае смешнае і цікавае заключалася ў тым, што ў рэшце рэшт ён дасягаў менавіта таго выніку, якога хацела яна. Але кожная справа, якую робяць пад прымусам, а не з любоўю, агорквае, і нічога, акрамя нянавісці, не выклікае. І нападпітку, і цвярозы ён часам думаў: тое, што адбываецца між закаханымі людзьмі, калі яны застаюцца адны, і тое, што адбываецца паміж гвалтаўніком і ягонай ахвярай, — у фізічным плане літаральна адно і тое ж. А вось узаемныя пачуцці — дыяметральна супрацьлеглыя, і таму зусім розным аказваецца сэнс учынкаў. У першым выпадку — тое, што называюць каханнем, калі яно сапраўды недзе існуе, а ў другім — злачынства. Хіба тое, як яна размаўляе з ім усе гэтыя гады, як распараджаецца, нібыта сваёй уласнасцю, — гэта не злачынства? Яна калі-небудзь спытала: а як ён лічыць, а што ён думае, а што ён хоча? Не! Яна заўсёды наперад ведала, што ён любіць, што ён хоча і што ён думае, і таму ніколі гэтымі пытаннямі не цікавілася. Чым далей ішоў час, тым больш ён разумеў, што гэтае спалучэнне поўнай і абсалютнай душэўнай глухаты з непараўнальнай амбітнасцю — сапраўды грымучая сумесь. І ніякіх іншых вынікаў, акрамя тых, што ўжо дала, даць не можа.

Часам яму хацелася рашыцца і прыдушыць гэтую жанчыну, каб разам з ёй скончыліся ўсё ягоныя пакуты. Але ён палохаўся сваіх думак і адхрышчваўся ад іх, як ад нячыстай сілы. Ён ніколі не мог падумаць, што тая дзяўчынка, якая жыла ў ёй і якую ён больш за ўсё ў ёй любіў, проста баялася ягонай заўсёднай іранічнасці, ягоных кпінаў, злога языка і насмешак і бараніла сваю, мо нават і далікатную, чалавечую сутнасць за валявым і рашучым напорам.

Часам ён разважаў: а можа, уся справа ў тым, што яны — абое рабое? Два боты — пара? Хіба ён калі-небудзь цікавіўся, ці добра ёй з ім? Не, не цікавіўся. Бо ўпэўнены быў, што побач з ім, такім здольным і незвычайным, нікому не можа быць кепска. І яна, напэўна, была перакананая, што ўсе вакол павінны быць шчаслівыя бачыць і чуць яе, такую здольную і незвычайную.

Але ў іхняй сям'і хіба ён чалавек? Машына, апарат, механізм, з дапамогай якога здабываюцца патрэбныя "зайцы" і "баксы". Чамусьці ён думаў, што калі б ён мог расказаць жонцы свой сон пра асфальтавы каток, і калі б яна зразумела яго ці здагадалася, што яна — прычына многіх ягоных пакут, дык ён мог бы даравацъ ёй вельмі многае. І брудны посуд, і цыгарэтны дым. І тое, што дзяцей яна выхоўвае зусім не так, як трэба. Але яна, напэўна, ні пра што не здагадвалася.

З-за бясконцых п'янак яму давялося развітацца з той досыць высокай і прэстыжнай пасадай, якую ён займаў. Але запоі скончыліся нечакана. Аднойчы яго, п'янага, забрала міліцыя і, натуральна, завезла ў выцвярэзнік. Яго не білі. Проста склалі акт затрымання і паклалі на ложак з прасцінай, але без матраца. А потым зачынілі дзверы.

У выцвярэзніку яму стала блага. Добра, што суседзі спахапіліся своечасова, пачалі стукаць у дзверы, клікаць міліцыянера. Той пазваніў у "хуткую дапамогу". Урачы хуценька зарыентаваліся і завезлі адразу ў рэанімацыю, дзе яго доўга адкачвалі пасля сардэчнага прыступу. Трапіўшы пасля рэанімацыі дадому, ён нарэшце пагадзіўся з жонкаю: узяў у знаёмага ўрача бальнічны лісток — нібыта хварэе, а сам адправіўся ў ЛТП, якія тады яшчэ існавалі.

Вярнуўся ён з ЛТП зусім іншым. Як быццам нейкім нежывым. Больш маўчаў, нічога не гаварыў, не пярэчыў, не іранізаваў. І жонцы зрабілася страшна. Яна думала: няхай бы ўсё было як раней. Няхай бы ён піў па-ранейшаму і па-ранейшаму кпіў і пасміхваўся з яе, з таго, якая яна бесталковая гаспадыня, з таго, што ў хаце, як і раней, няма ніякага парадку. Але ён маўчаў, нібы па-ранейшаму знаходзіўся ў тым жыцці, дзе яе побач з ім не было і дзе ён зусім не меў у ёй аніякай патрэбы.

...На іхняй вуліцы ізноў кладуць новы асфальт. Густа чорны, урачысты, ажно з сіняватым адлівам. Вада на ім не стаіць, збіраецца ў маленькія азерцы-лужыны і не сцякае. Асфальт роўны, гладкі, прыгожы. Нібыта так і павінна быць.

А зямля — не дыхае. І трава тут болей не расце...

## "Адчуваю сябе шчаслівым чалавекам..."



**Споўнілася 45 гадоў творчай дзейнасці вядомага жывапісца Станіслава Дзмітрыевіча Дзьяканава, які жыве ў Гомелі. У ягонай майстэрні, якую мы наведалі днямі, дзесяткі палотнаў, створаныя ў апошні час. Вылучаецца цыкл карцін "Маё Палессе". Яны напісаны ў глыбінцы гэтага прыгожага краю — на Тураўшчыне. Тут і Замкавая гара, дзе стаіць помнік Кірылу Тураўскаму, і ціхая плынь Прыпяці, навакольныя лясы... Прыгожая зямля! Яна апета мастаком у мажорных фарбах, якія характэрныя для ўсіх амаль без выключэння твораў мастака.**

**Станіслаў Дзьяканаў адзін з тых творцаў, якія з гонарам прадстаўляюць мастацтва нашай краіны за яе межамі. Праз усё жыццё ён пранёс цэласнасць сваёй творчасці, сцвярджаючы светлае, духоўнае мастацтва, дзе няма месца шэрасці і смутку. На ягоным рахунку — шэраг персанальных выстаў. З вялікім поспехам прайшла яго персанальная выстава ў мінскім Палацы мастацтваў. Яна была прымеркавана да 65-годдзя з дня нараджэння. На ёй экспанавалася 300 ягоных работ.**

**Станіслаў Дзмітрыевіч — мастак шырокага творчага дыяпазону. Ён малюе тэматычныя карціны, партрэты, пейзажныя кампазіцыі, нацюрморты, якія славяць родную зямлю, узвышаюць чалавека, паказваюць веліч нашай прыроды. У кожным ягоным творы імпульс жыцця, унутранае гарэнне аўтара.**

**Трэба адзначыць палотны мастака "Памяць", Балада пра маці", "Беларускі золак", партрэт мастака Д. Алейніка, "На Прыпяці", "Пара сіняга неба", "Майская раніца", "Фарбы восені".**

**Выказваючыся, напрыклад, аб рабоце над партрэтам, С. Дзьяканаў падкрэслівае: "Напісаць партрэт з падабенствам не з'яўляецца праблемай, а высветліць унутраны, душэўны стан партрэтуемага — гэта заўсёды складана".**

**Творы Станіслава Дзмітрыевіча знаходзяцца ў многіх музеях далёкага і блізкага замежжа, у прыватных калекцыях і галерэях. Сваёй творчасцю ён сцвярджае любоў да зямлі, павагу да чалавека і народа, веру, што з дапамогай мастацтва можна паказваць дабро і высокую маральнасць.**

**Найлепшыя пейзажы Станіслава Дзмітрыевіча, якія выкананы на адзіным подыху — гэта значыць, у адзін сеанс, пры сустрэчы сам-насам з прыродай. Ён сцвярджае: "Стан душы мастака, тым больш прыроды, на наступны дзень не паўтараецца". І яшчэ мастак гаворыць: "Трэба ісці не ў шырыню, а ў глыбіню, даказаўшы тым самым, што сапраўдны твор можна зменшыць да гузіка і павялічыць да манументальнага размера..."**

**У творчым працэсе аўтар не проста пераносіць на палатно пэўны краявід, не проста фіксуе яго. Не, ён па-свойму асэнсоўвае, адчувае стан прыроды, кожнае імгненне, дакладна адлюстроўвае на палатне парыў ветру, ззянне снегу, водбліскі промняў сонца на вадзе.**

**Асаблівае месца ў творчасці С. Дзьяканава займае партрэт. У гэтым жанры ён з'яўляецца прызнаным майстрам, які стварыў дзесяткі жывапісных і сотні графічных партрэтаў нашых сучаснікаў.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ, мастацтвазнаўца**

*На здымку: С. Дзьяканаў у майстэрні*

*Фота М. БЯЛЬКОВІЧА*

# Кумленне з боскім і зямным

ПАСТАВЫ: СВЯТА НАРОДНАЙ МУЗЫКІ

## Пад кветкавым дажджом

Дождж — істота непрадказальная. Свавольнае дзіця Зямлі ды Космасу, ён любіць падмачыць рэпутацыю сіноптыкаў: прагноз для яго — не закон. Стыхія піша свае законы, кіруецца сваімі традыцыямі. І штосьці няўгледнае, невытлумачальнае для нас вымушае традыцыйны рытуальны дождж выпраўляцца да людзей тады і туды, дзе і калі тыя ладзяць свой музычны рытуал. Сказаць прасцей — фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" суправаджаецца дажджом. Абавязкова! Гэтак павялося з "дапастаўскага перыяду", ад самага першага свята, якое праходзіла ў Віцебску.

Першы, яшчэ віцебскі, фэст народных музыкаў любіць успамінаць Міхал Казінец: яму давялося тады, не зважаючы на моцную залеву, дырыжыраваць вялікім цымбальным аркестрам — гралі пад адкрытым небам. Пятым разам цымбалы і гармонік выправіліся ў Паставы, каб асталявацца тут на ўсе наступныя гады, — і дождж следам. Так што на сёлетнім, ужо адзінаццатым (а ў статусе міжнароднага — трэцім) фестывалі ягоныя заўсёднікі-арганізатары ды чыннікі журы на чале з маэстра Казінцом радаваліся набрынялым хмарам, як добрым сябрам, і не спяшаліся адмежавацца ад іх парасонам.

У аўтобусе, праўда, пра парасон мала хто думае (мо таму часцяком кідаюць-забываюць гэтую неабходную ў нашым амаль балтыйскім клімаце рэч менавіта ў аўтобусах?). Вось і мы, выпраўляючыся з Мінска, залітага дажджом, на сёлетні пастаўскі фэст, проста ўголас падумалі: залье і там. А на парасоны забыліся зусім, бо праз якую гадзіну неба зрабілася ясным, а ўздоўж дарогі разлілося-працягнулася сапраўднае сіняе-сіняе мора. Колькі куды ні ездзіла, такога шчодрага цвіцення лубіну не бачыла! Хто ж той сейбіт-мастак, які гэтак густа ды шырока расквеціў ультрамарынам знаёмы краявід, украіўшы сям-там купкі кветак-альбіносаў, што падаваліся белымі "баранчыкамі" на марскіх хвалях?..

Сінімі-сінімі кветкамі, толькі ўжо іншага, "азёрнага" адцення, сустракалі нас у Паставах. Прыпыніўся аўтобус ля гарадской мяжы — падступілі да яго дзяўчаты ў беларускіх строях, з хлебам-соллю, з квасам у збанах, са снапамі вясёлых цыбатых васількоў (і ў якім жыце столькі водзіцца?). Кожнага частавалі, кожнага кветкамі надзялілі — тых, хто з аўтобуса не выходзіў, персанальна павіталі. Гучала і музыка. Праўда, чамусьці не тамтэйшая "Варапаеўская полька", напрыклад, а папулярная мелодыя "Каробейнікоў".

Дзіўна, але было сонечна! Галоўны рэжысёр фестывалю Пётр Гуд, які ўжо тры дні шчыраваў на рэпетыцыі пастаўскіх імпрэзаў, радаваўся, што цырымонія адкрыцця ўпершыню адбудзецца пры ясным надвор'і. Запэўніваў у гэтым і старшыня Пастаўскага райвыканкама Васіль Чэпік, калі падчас прэс-канферэнцыі за вокнамі пацямнела і на плошчу абрынуўся дождж: "Не волнуйтесь, товарищи, погода — процесс управляемый". Ён, як заўсёды грунтоўна, расказаў пра набыткі "бяздатацыйнага" Пастаўскага раёна, дзе ёсць поспехі ў гандлі, жывёлагадоўлі, жыллёвым будаўніцтве, ахове здароўя, адукацыі. І ў культуры. У раёне з насельніцтвам 56 тыс. чалавек працуюць 31 дом культуры, 40 бібліятэк, 4 музычныя школы, 71 установа адукацыі; ёсць 6 народных калектываў, улічана 18 помнікаў архітэктуры. А яшчэ — дзейнічаюць 6 касцёлаў, 7 праваслаўных храмаў і адзін цэнтр хрысціян-евангелістаў. І ўжо сем гадоў жыве тут фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік", які набыў міжнародны розгалас, прыдбаў добрую славу для места Паставы і яго гаспадароў.

Цікавая акалічнасць: Міністэрства культуры, з мінулага лета занятае маштабным фестывальным праектам "Беларусь — мая песня", не прадугледжвала ў сваіх сёлетніх планах правядзенне пастаўскага фэсту, мела на мэце зрабіць гэтым разам паўзу, каб і надалей ладзіць свята цымбалаў ды гармоніка кожныя два гады. Але дзе там! Прызвычаілася Пастаўшчына да штогадовых сустрэч з народнымі музыкамі. Сам Васіль Васільевіч — і гэта неаднаразова, з удзячнасцю і захапленнем, падкрэсліваў начальнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці міністэрства Тадэвуш Стружэцкі — стаў ініцыятарам правядзення фестывалю сёлета.

Значныя выдаткі цяпер узяў на сябе менавіта раён, зрабіўшы своеасаблівую палёгку Міністэрству культуры. Прыводзіліся лічбы: у Паставы з'ехалася каля 600 чалавек, на патрэбы фестывалю і адпаведную падрыхтоўку горада выдадзена 3 млрд. рублёў, яшчэ 5 млрд. каштавала рэканструкцыя старога вадзянога млына, у якім цяпер будзе працаваць раённы Дом рамёстваў.

Адчуўшы ў сустрэчных журналісцкіх пытаннях намёк на нешчадлівасць, спадар Чэпік хітравата ўсміхнуўся: "Вы адсюль мала з сабой павезяце, усё застанецца ў Паставах!"

Так, сапраўдны гаспадар сабе ва ўрон не зробіць. І пры гэтым гасцей прыме па-людску. Дый, урэшце, і "з сабой павязуць" яны не так і мала. Вось хаця б уражанні таго першага ўрачыстага вечара...

Плошча, залітая ўжо не дажджом, а сонцам; шэсце ўдзельнікаў фэсту; тэатралізаваная цырымонія адкрыцця — з праездам самога Тызенгаўза ў павозцы, са згадкамі пра культурныя традыцыі Паставаў, знанага ў 17 ст. еўрапейскага мястэчка; з гучаннем вытанчанай старадаўняй музыкі ды паказам шляхетных танцаў, з граннем каларытных беларускіх полек ды звычным народным пяяннем... Тады ж раптам раскрыла свой сакрэт прысунутая да сцэны вялізная скрыня, расфарбаваная "пад цымбалы": чыесьці рукі прыўзнялі бутафорскую дэку-вечка, і з-пад яе выпырхнулі дзесяткі й дзесяткі шэрых галубоў! (Потым пыталася ў Пятра Адамавіча Гуда, дзе здабыў столькі птушак. Ён толькі стомлена ўздыхнуў: "Ат.. Нават на зернятках лавілі. Але ў "цымбалах" яны не надта доўга мучыліся, мо гадзінку якую...").

Новыя прыдумкі ў дачыненнях з традыцыйным, набытым-напрацаваным; новыя госці ў стасунках з даўнімі знаёмцамі, —усё гэта надае святу творчы жыццёвы імпульс і вызначае яго мудрую дыялектыку. І ў духу гэтай касмічна-зямной дыялектыкі адраджэння на фестывальнай плошчы старажытны беларускі абрад кумлення.

Кумленне, або кумаванне, спраўлялася ў знак устанаўлення прыязных, сяброўскіх адносін, а яшчэ — пасля сяўбы, каб добры быў ураджай. Шматфункцыянальная сімволіка гэтага абраду прыдалася і да пастаўскага фэсту: ягоныя чыннікі, кіраўнікі музычных калектываў, "пачаломкаліся" праз смарагдавыя бярозавыя вяночкі — на шчырае сяброўства, на добры творчы ўраджай...

Колькі яшчэ ўражанняў падараваў той першы вечар! Выбітны канцэрт Акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам маэстра Міхася Дрынеўскага — у Доме культуры. Выступленні мастацкіх калектываў і "Пастаўскі баль" — на плошчы, з новым перастварэннем піратэхнічнай партытуры, зробленай па матывах вынаходніцтву знакамітага беларускага феерверкмайстра 17 ст. Казіміра Семяновіча.

А дождж? Доўга чакаць не давялося! Дадалі нябёсы да людскога свята сваю навальнічную музыку. Асабліва шчыравала залева, калі ўсе госці, удзельнікі мусілі зрабіць ганаровую праходку па плошчы праз зялёную браму, ля якой сустракалі дзяўчаткі з кошыкамі. Яны спрытна чэрпалі жменькамі "зерне" і пасыпалі, пасыпалі няспешную людскую чараду. На нашыя галовы ды парасоны ружаватымі, ліловымі, сінімі "зярняткамі" сыпаліся кветачкі з пацярэбленых лубінавых гронак. Густа ды шпарка сыпаліся — мяшаліся з кветкамі кроплі дажджу...

## "Памежжа" для талентаў

Вядомы прадзюсер мусіў аднойчы патлумачыць, што арганізатары кінафестываляў аддаюць перавагу невялікім гарадам не з-за "любові да багемнага адпачынку ў маляўнічым асяроддзі", а з-за мажлівасці ўцячы ад сталічнай калатнечы, засяродзіцца на галоўнай справе, пакалегаваць, папрацаваць больш мэтанакіравана і плённа. Цалкам слушна! Цяжка ўявіць сабе, што сталася б, напрыклад, з пастаўскім фестывалем, калі б "перасадзілі" яго на мінскую глебу. Невыпадкова ж, відаць, збочыў ён з віцебскага асфальту пад шаты гэткай маляўнічай местачковай старасветчыны. Тут, нягледзячы на знаныя нязручнасці ўвогуле-то дыхтоўнай пастаўскай гасцініцы, пачуваеш сябе і ўтульна, і ў гуморы, і ў творчым тонусе. Тут ўсё і ўсе — падзеі ды людзі — побач. Са старым знаёмцам не размінешся, чалавека новага разгледзіш добра.

Удзельнікі мастацкіх праграм усе тры дні — навідавоку: выступаюць на плошчы, граюць, таньчаць ды пяюць у скверыку ці ля мураванага дамка; выязджаюць "на ўсяночную" да хлебасольных вяскоўцаў; рыхтуюцца да традыцыйнага конкурсу "Хто каго?", рэпеціруюць праграму заключнага гала-канцэрта.

Паназіраеш за імі, паслухаеш — і разумееш: няздары сюды не прыязджаюць. Як жа цяжка быць суддзём на іх конкурсе! Можна вызначаць узровень дасведчанасці, навучанасці, умельства, можна спрачацца пра густ... А як ацэньваць сам талент? Дару Божаму — Бог і суддзя...

Таму й шаноўнае журы, у складзе якога таксама музыканты ад Бога, тытулаваныя практыкі, выдатныя педагогі, ацэньвае не талент. А, бадай, спосаб яго падачы: уменне падабраць рэпертуар, майстэрства, артыстызм, творчы пошук, эстэтычны густ, стаўленне да традыцый...

Конкурс абавязвае суддзяў выстаўляць гэткія "памежныя слупы" паміж спаборнікамі: вызначаюцца першы, другі, трэці — і астатнія. На жаль, нічога лепшага свет пакуль не вынайшаў. Арганізатары пастаўскага фэсту намагаюцца, аднак, прыдумваць нейкія адметныя формы падтрымкі ды заахвочвання музыкаў-аматараў. Сёлета ўпершыню апрабавалі намінацыю "настаўнікі і вучні музычных школ": фестываль мусіць жывіцца пераемнасцю традыцый, скіраванай на перспектыву.

Цудоўна, усцешна, што праз музыку адбываецца яднанне бацькоў і дзяцей, дзядоў і ўнукаў! Ні жанравыя межы, ні жорсткі рэгламент конкурсных выступленняў, ні дух прылюднага творчага саперніцтва гэтаму не замінаюць. І аднадушна-захопленай робіцца шматлікая стракатая грамада, што ставае заўсёдны аншлаг у зале Дома культуры, збіраецца на ўтульнай цэнтральнай плошчы, займае ўсе лаўкі амфітэатра ў гарадскім парку, гатовая стрываць і дождж, і задуху.

"Афіцыйнага прызнання" ўдзельнікам таксама не бракуе: дыплом, прэмію, спецпрыз, каштоўны падарунак ці то ад журы, ці то ад аргкамітэта, ці то ад творчага саюза, ад установы культуры — кожны сваё атрымае. А як жа яшчэ ганаравць-падтрымліваць таленты, узгадаваныя на ніве безганарарнага аматарства, не абцяжараныя прафесійнымі амбіцыямі, праблемаю мізэрных музыканцкіх заробкаў, клопатам пра забеспячэнне канцэртнай нормы?

Добрае слова ў друку — таксама падтрымка. Але тыя, каму даводзіцца пра такія фэсты ды конкурсы пісаць, апынаюцца ў цяжкім становішчы: добрае слова знойдзецца для кожнага артыста з народа, а вось газетная плошча... Мо таму не шкадуеш паперу, занатоўваючы ў падарожным блакноціку ўражанні ад кожнага выступлення: хай будзе, раптам калі спатрэбіцца для друку.

Хто ведае, мо і надарыцца нагода ўспомніць бліскучы фестывальны дэбют Уладзіміра Барысюка, баяніста-першакласніка (выхаванца знанага пастаўскага музыканта, педагога, лідэра фальклорнага ансамбля "Паазер'е" Анатоля Собаля)? Прыгадаць юную, ды ўпэўненую Вераніку Цярлюк — прыпевачніцу з Віцебшчыны. Ці сямейны дуэт рэчыцкіх прыпевачніц Любові Бандарэйкі ды Надзеі Зямлянік.

Мо калі спатрэбіцца назваць усе інструменты, на якіх адначасова (!) грае варапаеўскі "чалавек-аркестр" Пётра Кіёнак: губны гармонік, балалайка, барабан з "прыбамбахамі"... Ці ягоны найвіртуозны "канкурэнт" са Случчыны Аляксей Вішняк: у яго і гармонік з "прыбамбахамі", і ўдарныя талеркі да каленяў прывязаныя, і губны гармонік задзейнічаны, і зэдлік з педаллю (тупні нагой — калатушка на бакавіне забарабаніць) ды з ручкаю (узяў ды пайшоў, як з чамаданам).



*На чале шэсця — ансамбль “Паазер’е”.*



*Рэжысёр Пётр ГУД фестывальным надвор’ем задаволены...*



*“Бабруйскія музыкі”.*



*Віталь РАГІНЯ ды Уладзімір БАРЫСЮК (Пастаўская ДМШ).*

Утаропліваюся зараз у свае падарожныя накіды і нібыта наноў захапляюся па-канцэртнаму эфектным выступленнем цымбаліста Аляксандра Юшкевіча, вучня Крупіцкай школы мастацтваў, сапраўдным прафесіяналізмам мінскага баяніста Міхася Сіняка.

А інструментальныя гурты! “Капыляне” з іх жывым, немузейным фальклорам. “Баламуты” (Беларускі універсітэт культуры) з яскравым салістам Канстанцінам Трамбіцкім, у якога дудачка дыхае, як лёгкі ветрык, свішча па-птушынаму, а жалейка нясе ў сабе цеплыню чалавечага голасу...

Асобная размова — госці. Фінансавыя прычыны не дазволілі прыехаць суседзям-летувісам, палякам... Прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі венгерка Вікторыя Херэнчар, якая ўпадабала Беларусь, нашых цымбалістаў ды пастаўскае свята і наважылася зноў папрацаваць у конкурсным журы, паўдзельнічаць у канцэртах, мусіла патэлефанаваць напярэдадні фестывалю з адмовай: яе ўключылі ў праграму адказнага выступлення перад прэзідэнтам Венгрыі...

Урэшце, Паставы прымалі сёлета тры замежныя дэлегацыі.

Любоў публікі і захапленне прафесійнікаў адчулі на сабе “Вясельныя музыкі” з Кіева— студэнты кафедры фальклору і этналогіі інстытута культуры. Даравітыя хлопцы, спанатраныя ў музычных традыцыях усіх рэгіёнаў Украіны, у тым ліку ў фальклоры нацыянальных меншасцяў, разам са сваёй мастацкай кіраўніцай Раісай Гусак падрыхтавалі выбітную праграму. Апроч квяцістай і густоўнай “Гуцульскай рапсодыі”, былі нумары салістаў: гарманіста Міхала Ганзолы, выканаўцы на многіх духавых народных інструментах Анатоля Задворнага...

Адметнасць “Музыкантаў з Маскачкі”, маладзёжнага трыо з Рыгі (лідэр — Ансіс Берзіньш) — у адсутнасці прэтэнзій на шумны сцэнічны поспех. Гараджане, яны адчулі тугу па “каранях”, зацікавіліся фальклорнымі інструментамі, пачалі спяваць ды граць народныя латышскія мелодыі. Плён свайго аматарскага захаплення і паказалі ў Паставах. А яшчэ яны першымі йшлі ў скокі на плошчы: ці то гучалі старадаўнія барочныя танцы ў выкананні баранавіцкага “Кантрданса”, ці то “рэзалі польку” пастаўскія музыкі.

А вось расіяне крыху збянтэжылі, каб не сказаць — засмуцілі. Ансамбль з Разаншчыны “Ребятушки”, названы фальклорным, прапанаваў добра вядомы “сувенірны шырспажыў”, якім частуюць сваіх масавых прыхільнікаў калектывы кшталту “Золотого кольца”. “Ребятушки” — таленавітыя і прафесійна дасведчаныя артысты, таму было асабліва ніякавата прымаць у якасці візітоўкі найбагацейшай рускай народнай культуры бліскучы кіч. Безумоўна, ён мае поспех у публікі, а значыць — і права на жыццё. Але ў адпаведным асяроддзі.

Што да прызоў і дыпломаў — без іх, як я ўжо казала, не застаўся ніхто. З досыць ладнага спісу сёлетніх лаўрэатаў вылучу толькі тых, каму журы прысудзіла першыя месцы. Гэта баяніст Міхась Сіняк, гарманіст Аляксей Вішняк, музыкі-духавікі Канстанцін Трамбіцкі, Анатоль Задворны, а таксама прыпевачніца з Міншчыны Юзэфа Бортнік. І калектывы: “Бабруйскія музыкі”, ганараваныя цымбаламі, ды “Капыляне”, якія атрымалі найкаштоўны прыз Міністэрства культуры — дуду, выробленую майстрам Віктарам Кульпіным.

Майстар сам гэты прыз і ўручыў... Найцікавы, дарэчы, ён чалавек. Адукаваны музыкант, былы педагог. Філосаф, і не толькі ў “агульначалавечым” сэнсе: кандыдацкую дысертацыю ў свой час абараніў. З дудой, якую рабіў пры дапамозе іншых майстроў-умельцаў і якую Міністэрства культуры ацаніла ў 15 млн. рублёў, у Паставах канчаткова расстаўся толькі падчас цырымоніі ўзнагароджвання ўдзельнікаў фестывалю.

Пра гэты мудрагелісты скураны мех з мастацкай аздобай, з пішчыкам для “дыхання”, з жалейкамі “на ўсе бакі” можа распавядаць у незвычайнай паэтычна-філасофскай манеры, параўноўваючы дуду і з будовай жыцця, і з нашым беларускім менталітэтам, сімвалізаваць які найбольш трапна можа менавіта гэты і ніякі іншы нацыянальны музычны інструмент.

Я спадзяюся, напіша ўсё ж Віктар Кульпін музычна-філасофскае эсэ для нашых чытачоў...

А свае нататкі перапыняю, каб прадоўжыць іх наступным разам і пагаварыць пра стасункі майстроў-прафесійнікаў, вядучых спецыялістаў з носьбітамі традыцый народна-інструментальнай творчасці, закрануць праблемы, якія выяўляе фестываль.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ*

КІНО

# Гульня ў спакусы

***Летась фільм амерыканскага рэжысёра Марціна Скарсезэ “Апошняя спакуса Хрыста” зрабіўся яблыкам разладу паміж НТБ і рускай праваслаўнай царквою. Расейцы спрачаліся: паказваць ці не паказваць. На Беларусі ніякіх дыскусій не было — у час паказу карціны трансляцыя НТБ была перапынена...***

Галоўная тэма фільма — змаганне духу і плоці — распрацаваная ў літаратуры і кінематографе. Вядома, здзіўляе не сама тэма, а тое, што дух і плоць могуць змагацца ў сэрцы Ісуса Хрыста, якога вернікі лічаць Богам. На думку ж М. Скарсезэ, Сын Чалавечы, як і ўсе астатнія здаровыя людзі, хацеў мець жонку і дзяцей. Яго апошняя спакуса на крыжы — здзяйсненне мары. Хрыстос у выкананні Вільяма Дафо не памірае за чалавецтва, а пачынае жыць так, як кожны з людзей: кахае жанчыну, гадуе дзяцей. Аднак за вонкавай ерэтычнасцю апошняй спакусы хаваецца глыбокая ідэя: жыццё Ісуса як простага чалавека выключае гэтае ж жыццё?! Нездарма праз час Юда сталага веку наракае на сталага Хрыста: “Навошта табе гэтыя жанчыны, дзеці?! Ты — здраднік, ты не выканаў тое, што павінен быў выканаць!” Аксіёма: без смерці не можа быць жыцця, без ахвяры — вызвалення. Памятаеце як у Святым Дабравесці: “І адышоўшы крыху, упаў на аблічча Сваё, маліўся і казаў: Ойча Мой! Калі магчыма, хай абміне Мяне чарга гэтая: але не як Я хачу, а як Ты”. Хрыстос Скарсезэ таксама пераадольвае апошнюю спакусу не як Я хачу, а як Ты. Аднак ахвяруе сабой не Сын Чалавечы, а чалавек?!

Трэба адзначыць, што амаль уся стужка пабудавана на такіх своеасаблівых парадоксах, — з пункту гледжання Святога Дабравесця. Для Скарсезэ Новы Запавет — гэта шахматнае поле, а новазапаветныя героі — фігуры, якія рухаюцца па правілах гульні, — па сваіх правілах. Таму не дзіўна, што Ісус з Назарэта робіць крыжы для рымлянаў і сябруе з Юдам (Харві Кайтэл), у якім бачыць вернага дапаможцу і першага свайго Апостала. Хто знаёмы з творчасцю Хорхе Луіса Борхеса, той, напэўна, ведае яго апавяданне “Тры версіі здрадніцтва Юды”. У сваім фільме М. Скарсезэ сумяшчае ўсе тры адразу. Самая скандальная з якіх фармулюецца так: “Каб выратаваць нас, ён (Хрыстос) мог выбраць любы лёс... Ён выбраў самы нікчэмны — ён стаў Юдам”. А Юда — Хрыстом, бо яны не антыподы, а супрацоўнікі. “Я буду ісці за табой, пакуль мне зразумелы Твой шлях, — гаворыць Юда Ісусу. — Аднак, калі ты хоць на крышачку сойдзеш з яго, я заб’ю Цябе!” Хрыстос памятае гэтае абяцанне і аднойчы просіць Юду выканаць яго.

Да парадоксаў у фільме Скарсезэ можна аднесці і сустрэчу Хрыста з Янам Хрысціцелем, які не пазнае ў ім Месію. Але галоўны парадокс — адсутнасць якіх-небудзь дачыненняў паміж Богам-Сынам і Богам-Айцом. Пераўвасабленне з цесляра ў Месію — цяжкое выпрабаванне для Ісуса. “Бог кідаўся на мяне, як драпежнік, уразаўся кіпцюрамі ў маю галаву... Няўжо ён не бачыць, што ў мяне ўнутры — грахі... Я — хлус, крывадушнік, усяго баюся, ніколі не гавару праўды, мне не хапае смеласці... Я не краду, не забіваю, але не таму, што не хачу, а таму што баюся. Я хачу паўстаць супраць Бога, але баюся”. На працягу ўсяго фільма Хрыстос, часам няўпэўнены ў сабе, нервовы, застаецца толькі пасынкам Бога. Ісус Скарсезэ хутчэй цясляр, чым Месія. Ён не ведае такіх малітоўных слоў: “хай будзе ўсё адзінае: як ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны хай будуць у Нас адзіна, — каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне”. Ісус у фільме Скарсезэ ідзе па шляху Сына Чалавечага нібыта зачараваны ці прывarожаны моцай Бога-тырана. Адсюль і парадоксы, адсюль і жаданне паўстаць, жыць як нармальны чалавек. Шчыра кажучы, нават увесь фільм — гэта адзін вялікі парадокс. А дакладней — гульня ў парадоксы. Таму “Апошнюю спакусу Хрыста” нельга ўспрымаць... усур’ёз! Бо гэта “кіношная батлейка”. Тым больш, што аўтар фільма адразу папярэдзіў, што ў аснове карціны ляжыць не Святое Дабравесце, а літаратурнае даследаванне вечнага духоўнага канфлікту.

Фільм М. Скарсезэ я б ніколі не аднесла да жанру гістарычнай эпапеі, бо ў ім няма ні цэласнасці, ні маштабнасці, ні праўды. За дзве з паловай гадзіны можна даведацца, хутчэй, пра жыццё сучасных (!) людзей, чым старажытных юдзеяў. Няшчаснага бабыля з Назарэта ўвесь час папракаюць, што ён не мае жонкі і дзяцей. Тут памылка відавочная. У старажытнай Юдзеі мужчыны, якія прысвяцілі сябе Богу (так званыя назарэі), былі ў пашане. І вядома, пра тыя комплексы (амаль паводле Фрэйда), якія мардуюць Ісуса Скарсезэ (“Калі я бачу жанчыну, то чырванею... Я жадаю яе, але не магу ўзяць з-за Бога і тым ганаруся”), тады ніхто не ведаў. Вынікае, што Ісус Хрыстос Скарсезэ — гэта Хрыстос XX стагоддзя. А дакладней — чалавек XX стагоддзя?!

Спадзяюся, што тыя вернікі, якія ўсё ж паглядзелі “Апошнюю спакусу Хрыста”, не спакусіліся на гульню рэжысёра. У карціне ёсць момант, калі Хрыстос сустракае Апостала Паўла. “Я рады, што сустрэў цябе, — гаворыць Павел Ісусу, — бо Той Хрыстос, якога я прапаведваю, іншы, чым ты. Ён быў укрыжаваны і праз тры дні ўваскрос!” З іншым так яно і было.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

## І педагог, і даследчык

МІКОЛУ ГРЫНЧЫКУ — 75

**У дваццацігадовым узросце Мікалай Міхайлавіч далучыўся да барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі: у сакавіку 1943-га стаў агентурным разведчыкам партызанскага атрада "Савецкая Беларусь" Брэсцкага партызанскага злучэння, а з ліпеня 1944 года — у арміі, на фронце. Быў цяжка паранены. Пасля вайны загадваў Быценьскім раённым аддзелам сацыяльнага забеспячэння. У 1952 годзе скончыў літаратурны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута, настаўнічаў. У 1957 годзе скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, у якім пачаў працаваць навуковым супрацоўнікам. З 1970 года — загадчык кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, адначасова у 1973—1985 гадах з'яўляўся галоўным рэдактарам рэспубліканскага міжведамаснага зборніка "Беларуская літаратура". З 1980-га — загадчык кафедры тагачаснага Мінскага інстытута культуры.**

**Як крытык і літаратуразнавец выступае з 1957 года. Выдаў манаграфіі "Максім Багдановіч і народная паэзія" (1963), "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі" (1969), "Шляхі беларускага вершаскладання" (1973), крытыка-біяграфічны нарыс "Аркадзь Куляшоў" (1964). М. Грынчык — адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (1966), "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (1969), "Истории белорусской дооктябрьской литературы" (1977), шэрагу падручнікаў па гісторыі літаратуры.**

**З днём нараджэння, шаноўны Мікалай Міхайлавіч! Далейшых Вам поспехаў у жыцці і творчасці!**

## Хоць і напісана няшмат

**27 ліпеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Сямашкі (памёр 23 верасня 1965 года). Сцяпан Пятровіч родам з вёскі Барылы цяперашняга Полацкага раёна, якая пазней злілася з вёскай Катушанкі. Добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у грамадзянскай вайне. З 1921-га па 1926 год быў на партыйнай і савецкай рабоце ў Полацку, пасля працаваў рэдактарам акруговай газеты "Чырвоная Полаччына", у часопісе "Шляхі калектывізацыі", у газеце "Звязда". У 1932 годзе скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. У час Вялікай Айчыннай вайны — палітработнік. Затым С. Сямашка працаваў адказным сакратаром камісіі па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а з 1947 года — навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Друкаваўся з 1925 года. У 1932 годзе выдаў кнігу апавяданняў "Пералом". У 1927 годзе ў газеце "Чырвоная Полаччына" было змешчана некалькі ўрыўкаў з аповесці "Пад панскай няволяй".**

## Са сховаў памяці і сэрца

**"У сховах памяці сэрца" называлася кніга ўспамінаў Івана Грамовіча, у якой аўтар згадваў сяброў-таварышаў, расказваў пра найбольш памятныя яму падзеі. Калі перафразіраваць гэтую назву, можна сказаць, што і натхненне І. Грамовіч чэрпаў са сховаў памяці і сэрца. А належаў ён да пакалення, якое ўваходзіла ў самастойнае жыццё ў гады надзвычайных сацыяльных зрухаў (нарадзіўся І. Грамовіч 26 ліпеня 1918 года ў вёсцы Закружка цяперашняга Мінскага раёна). У 1939 годзе скончыў літаратурна-лінгвістычны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага, быў прызваны ў армію, з якой развітаўся толькі ў 1945 годзе — служыў у артылерыйскіх часцях як палітработнік і камандзір. Пасля дэмабілізацыі быў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром часопіса "Беларусь", а з 1953-га па 1954 год — адказным сакратаром часопіса "Маладосць". У 1956 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі "Беларусьфільм", намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць", літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, з 1870-га па 1975 год — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Вожык".**

**Дэбютаваў І. Грамовіч у 1935 годзе на старонках альманаха "Аднагодкі". Вядомасць яму прынеслі зборнікі апавяданняў і аповесцяў "Рына-Марына", "Шырокія азёры", "У лесе на палянцы", кніжкі апавяданняў для дзяцей "Першае верасня", "Сонца скрозь воблакі", "Як вясну рабілі". Не засталіся не заўважанымі і сатырыка-гумарыстычныя творы, аб'яднаныя ў кнігі "Нарасць", "Вадалей — Гэтакдалей". У 1953 годзе ў часопісе "Полымя" была змешчана першая частка рамана "Іду з табой, Масква!". І. Грамовіч з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў фільмаў "Памяцію сэрца", "Паэт у дарозе", "Паўлік і партфель", займаўся перакладамі з рускай і ўкраінскай моў. Не стала Івана Іванавіча 2 ліпеня 1986 года.**

ПАМЯЦЬ

# Простыя і душэўны

***Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!..***

Гэта радкі з вядомай усім паэмы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. З якою душэўнасцю, пранікнёнасцю, цеплынёю гучаць гэтыя словы!

З творамі Якуба Коласа я пазнаёмілася яшчэ ў школьныя гады, палюбіла на ўсё жыццё і "Новую зямлю", і "Сымона-музыку", сярод аповесцей — "Дрыгву", у якой расказваецца аб змаганні беларускага народа за перамогу рэвалюцыі. А галоўны герой яе дзед Талаш — чалавек легендарны, смелы, сапраўдны народны герой, з якога трэба браць прыклад.

Я мела вялікае шчасце бачыць Канстанціна Міхайлавіча, гутарыць з ім. Сустрэчы гэтыя пакінулі ў маім жыцці значны след. Іх ніколі не забыць, як не забыць і гэтага дзівоснага чалавека.

Працавала я ў рэдакцыі дзіцячага часопіса "Бярозка". Сядзела аднойчы, як цяпер памятаю, за сталом, чытала чыёсьці апавяданне. Так зачыталася, што не пачула, як адчыніліся дзверы, нехта ўвайшоў у пакой ды раптам спакойным голасам спытаў:

— Прабачце, гэта я трапіў у "Маладосць"?

Я падняла галаву і разгубілася, убачыўшы перад сабою... Якуба Коласа.

— Не, гэта "Бярозка", а "Маладосць" — на другім паверсе, — адказала я і прапанавала: — Магу правесці вас туды.

— Дзякую. Вось толькі адпачну ў вас крышку. Можна?

Канстанцін Міхайлавіч апусціўся ў крэсла, паклаў рукі на стол, пільна прыглядзеўшыся да мяне, спытаў:

— Кім жа вы, маладзіца маладая, працуеце ў "Бярозцы"?

— Стылістам і карэктарам.

— Я так і падумаў, — седзячы насупраць мяне, прамовіў Канстанцін Міхайлавіч. — Некалі, шмат гадоў назад, я друкаваў свае вершы ў "Бярозцы". Часопіс падабаецца мне, і дзеці любяць яго. Каб ён быў каляровы, зусім па-іншаму глядзеўся б.

Канстанцін Міхайлавіч пачаставаў мяне цукеркай і папрасіў расказаць пра сябе.

Я крыху засаромелася, пачырванела, але, убачыўшы яго цёплы позірк, лагодную ўсмешку, супакоілася, назвала сваё імя.

— Можна, я цябе буду называць маладзіца маладая, не пакрыўдзішся? — раптам перайшоў на "ты" Канстанцін Міхайлавіч. Хвілінку счакаўшы, спытаў: — А бацькі жывы?

— Бацька жывы, — адказала я, расчуленая гэтым пытаннем, і сама не заўважыла, як расплакалася, успомніўшы матулю, сястру, бабку, дзядзьку Сяргея, што загінулі ад фашысцкай бомбы на другі дзень вайны.

— Ну, прабач, што расхваляваў цябе. — Канстанцін Міхайлавіч паклаў сваю руку на маю і прамовіў: — Супакойся. Ва ўсіх нас вайна пакінула цяжкі след. Вось і ў мяне загінуў сынок Юрка, мая крывінка, мой родненькі каласок. І жонка памёрла. Ды што зробіш?!

Зірнула я на Канстанціна Міхайлавіча — і ён ледзь не плача, сядзіць з нізка схіленай галавою. Праз якое імгненне зноў спытаў:

— А скажы мне, дзе ты ў той страшны час была?

— Як ляцелі фашысцкія самалёты, на ганку стаяла. Налічыла трыццаць чатыры самалёты. Маці сказала: "Палезем у склеп", быццам там можна было знайсці ратунак. Я пайшла ў хату апранаць малодшую сястру Таню. Не паспела нацягнуць сукенку, як раптам задрыжала, скаланулася хата, а адчула моцны ўдар па галаве і знепрытомнела. Ачулася ад гарачыні, ад агню, што падкрадваўся да цела. Трашчалі сцены, дах. Памкнулася ўцякаць, і ў гэты момант каля мяне заварушыўся нехта. "Таня!" — мільганула думка. І хоць кружылася галава, мы здолелі выбрацца з гэтага пекла. Праз імгненне ўся хата была ахоплена полымем.

— Ах, ты ж, маладзіца маладая, колькі прыйшлося перажыць табе, папакутаваць! — са шкадаваннем у голасе прамовіў Канстанцін Міхайлавіч. — Ён задумаўся, потым зірнуў на мяне і загаварыў: — Гэта ж пра цябе можна пісаць цэлую паэму... Ну, няхай не паэму, дык верш. І я напішу, абавязкова... Як ты, яшчэ сама дзяўчынка, гадавала сястру, як цяжка жылося ў час вайны, не было чаго есці, не было вопраткі.

Я пазірала на Канстанціна Міхайлавіча зачараванымі вачамі, была ўдзячна яму за дабрыню, за спачуванне.

— Гэта ж на Беларусі загінуў кожны чацвёрты чалавек, а ў вашай сям'і — адразу чацвёра. Вялікае няшчасце.

Твар Канстанціна Міхайлавіча пасумнеў. Ён сядзеў задумаўшыся, глядзеў на яблыньку, што расла за акном. На дрэўцы весела цвыркалі вераб'і, пырхаючы з галінкі на галінку.

— Ну што ж, маладзіца маладая, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч, падняўшыся з крэсла, — трэба ісці. Чакаюць хлопцы ў "Маладосці". Паабяцаў быць у іх. Ды вось затрымаўся ў цябе.

Мы выйшлі ў калідор. Я правяла Канстанціна Міхайлавіча да лесвіцы, што вяла на другі паверх. Ён паціснуў мне руку і на развітанне сказаў:

— Бывай, маладзіца маладая, будзь шчаслівая. А верш пра цябе я напішу.

Цяжка абапіраючыся на парэнчы, Канстанцін Міхайлавіч пачаў узнімацца па прыступках. Я трошкі пастаяла, пакуль ён не схаваўся з вачэй, і вярнулася да сябе ў пакой. Усхваляваная сустрэчай, доўга думала пра гэтага душэўнага і такога простага чалавека, які падараваў мне радасць сустрэчы з ім. Сустракаліся мы некалькі разоў і ў тэатры імя Янкі Купалы. Апошні раз — каля будынка Дома афіцэраў.

— Добры дзень, Аленка, маладзіца маладая! — радасна ўсклікнуў ён, убачыўшы мяне. — Як маешся?

— Нішто, — прамовіла я і запыталася: — А як вы, Канстанцін Міхайлавіч?

— Дзякую. Але што я магу сказаць? Стары чалавек. А як ён можа адчуваць сябе ў такія гады? Вось бачыш, яшчэ не выканаў сваё абяцанне. Але выканаю...

— Дарагі Канстанцін Міхайлавіч, для мяне было радасна пазнаёміцца з вамі, пагутарыць, пачуць ваша добрае слова. А верш? Ці абавязкова пісаць яго?

— Не кажы, — запярэчыў Канстанцін Міхайлавіч. — Усё перажытае табою заслугоўвае таго, каб людзі даведаліся яшчэ пра адно скалечанае вайною маленства.

Было гэта незадоўга да смерці Канстанціна Міхайлавіча. Верш пра мяне ён так і не напісаў.

Абарвалася нітачка Яго жыцця жнівеньскай парою. І каля Яго везлі на магілкі, шматтысячная працэсія праводзіла паэта ў апошнюю дарогу. Лілася жалобная музыка. Людзі неслі вянкі. Я налічыла іх больш за дзвесце. Людзі неслі кветкі. Вяргіні, гладыёлусы, астры, гваздзікі. Букет чырвоных вяргіняў быў і ў маіх руках. Увесь беларускі народ аддаваў даніну павагі і любові мудраму, душэўнаму, таленавітаму Песняру, які пакінуў яму вялікую спадчыну.

А ў маёй памяці гучаў і цяпер гучыць незабыўны голас Канстанціна Міхайлавіча, жывуць згадкі пра незабыўныя сустрэчы з ім.

**Алена МІМРЫК,**
**член Саюза журналістаў Беларусі**

ЧАСОПІСЫ

# Старажытнасць і сучаснасць

Убачыў свет, хай і са спазненнем, першы з двух гадавых выпускаў гэтага прыватнага навуковага часопіса "Беларускі гістарычны агляд".

За час, што прайшоў пасля з'яўлення папярэдняга тома, выданне змянілася толькі ў адным — яго наклад паменшаў да 299 асобнікаў, дазволеных да друку без рэгістрацыі. У астатнім "БГА" застаўся нязменным: як і раней, у ім друкуюцца даследчыкі, што маюць уласны погляд на краіну і на яе гісторыю.

Нумар адкрывае публікацыя заснавальніка "Агляду" Генадзя Сагановіча "У пошуках Сярэднявечча". Спроба вызначыць, дзе палягае мяжа паміж гістарычнымі перыядамі, прымушае аўтара зрабіць выснову: "Сярэднявечча нас дасюль не пакінула. Яно не толькі ў формах арганізацыі жыцця, гандлю, рынку, у рамёствах: да яго сягаюць не толькі асноўныя маральныя нормы сучаснага чалавека, праравыя сістэмы і інстытуты: сярэднявечча — у нашай падсвядомасці..."

Наўрад ці Алесь Смалянчук — аўтар наступнага артыкула "Краёвасць" у беларускай і літоўскай гісторыі 1905—1940 гг." — чытаў свайго папярэдніка да выхаду нумара з друку. Але ён, вольна ці нявольна, працягвае ягоную думку. Істотная частка мясцовай эліты на польска-літоўска-беларускім памежжы прадстаўляла і абараняла найперш інтарэсы свайго рэгіёна, а не дзяржавы. Але стварэнне і ўмацаванне нацыянальных дзяржаў не пакінула месца ідэалогіі рэгіяналізму — даводзіць аўтар. "Тутэйшасць" як светапогляд сярэднявечча памірае разам з ім?

У гэтым стагоддзі на змену людзям, што не зважалі на межы, прыйшлі іншыя — тыя, што мусілі жыць па нейкі бок новых межаў — дзяржаўных ці моўных. Краёўцаў межыператваралі ў крэсоўцаў і палякаў, а "тутэйшых" — у беларусаў і "савецкіх". Суіснаванне дзвюх супольнасцей стварала ў калектыўнай свядомасці кожнай з іх стэрэатыпны вобраз іншай. Аб тым, які выгляд яны мелі, піша Рышард Радзік у сваім артыкуле "Палякі — Беларусы: узаемныя стэрэатыпы ў XIX і XX ст. (да 1939 г.)".

Людзі, што жывуць, па розныя бакі дзяржаўных межаў, звычайна маюць непадобныя ўяўленні аб тых жа самых гістарычных падзеях. Так, савецкая гістарыяграфія трактавала вайну 1920 года як паход за вызваленне беларускага і ўкраінскага народаў, а польская — як агрэсію Савецкай Расіі: Затое сёлета мы маглі назіраць нязвыклую блізкасць думак Масквы і Мінска. На пытанне анкеты аб месцы нараджэння дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі Яўгенія Навадворская адказала: на акупаванай СССР тэрыторыі Беларусі, а аўтар "БГА" Кірыл Маль у сваёй публікацыі "Вайна 1920 года і Беларусь. Вызваленне ці акупацыя?" давёў, натуральна, акупацыя.

Раздзел "Пераклады" адкрывае публікацыя "Гісторык і яго факты". Людзі, што жывуць у розныя часы, належаць да розных культураў і маюць розныя погляды, па-рознаму трактуюць тыя ж самыя падзеі гісторыі і надзяляюць не аднолькавую ўвагу кожнай з іх — сцвярджае яе аўтар Эдвард Гэлет Кар. Што ж, калі на радзіме аўтара пануюць "плюралізм" стасуецца да ўсяго — ад палітыкі да сэксу, дык чаму не зрабіцца плюралістамі і гісторыкам? У свеце існуюць розныя гістарычныя школы і канцэпцыі, якія нараджаюцца і паміраюць, спаборнічаюць, а такса ма робіцца модным і перастаюць быць такімі. Асэнсаванню гэтай з'явы прысвечаны артыкул Лорэнса Стоўна "Вяртанне нарратыву: развагі пра новую старую гісторыю". Другая публікацыя таго ж аўтара — "Будучыня гісторыі" — разважанні аб сэнсе і месцы ў жыцці грамадства гэтай адной з найбольш старажытных дысцыплінаў.

"Вачыма суседзяў: гэтая рубрыка складаецца з вялікага артыкула Губэрта Лашкевіча "Гісторыя Беларусі і беларусаў у польскіх падручніках па гісторыі". Дэталёва прааналізаваўшы мноства літаратуры, Лашкевіч наракае на цяжкасці ў справе вывучэння гісторыі Беларусі ды на спрэчнасць зместу розных падручнікаў. І ў нас сёння тое самае — хочацца дадаць мімаволі.

За апошнія гады цікаўнасць людзей да гісторыі ўласнай краіны, асабліва навейшай, значна вырасла. Падарункам для іх стане публікацыя ў "БГА" ўспамінаў Франца Кушаля "Спробы арганізацыі Беларускага Войска пры нямецкай акупацыі Беларусі". Ці стане гэтая публікацыя падставаю для грамадскай палемікі — пакажа час. Пакуль жа ў раздзеле "Палеміка" артыкул "Дзве гісторыі Полацка" змясціў Генадзь Сагановіч, выступіўшы апанентам свайго расійскага калегі Д. Валадзіхіна. Але ці варта спрачацца, да каго бліжэй быў сярэднявечны Полацк, калі сёння далёка на ўсход ад яго знаходзіцца дзяржаўная мяжа? Перасталі ж называць польскімі Львоў, Вільню і Гродна...

Наступныя шаснаццаць артыкулаў — агляды і рэцэнзіі літаратуры, выдадзенай у Беларусі, Украіне, Польшчы, ЗША, Вялікабрытаніі і Расіі. Інфармацыі і паведамлення, сабраныя далей, маглі б скончыць нумар, але ўвагу да сябе прыцягвае тэкст, змешчаны на трэцяй старонцы вокладкі. Гэта — ліст у рэдакцыю "БГА" галоўнага рэдактара польскіх часопісаў "Пшэглёнд Всходні" і "Обуз" Яна Маліцкага. У ім паведамляецца: калі змест нейкіх навуковых гістарычных часопісаў Беларусі стане падставаю да іх закрыцця ўладамі, рэдакцыі могуць спадзявацца на дапамогу польскіх калегаў, уключна да выдання беларускіх перыёдыкаў у Польшчы.

З 15 лістапада 1997 года — дня, калі быў напісаны гэты ліст — мінула нямала часу, з чаго вынікае: гісторыкі лепш ведаюць мінулае, чым будучыню. Гэты нумар не стане апошнім, выдадзеным у Мінску. Тыя ж, хто захоча яго прачытаць, могуць звярнуцца ў рэдакцыю, тэлефоны якой — 268-54-21 і 268-48-93.

**У. П.**

ВАРУНКІ

*Што такое старасць? Чаму мы баімся яе надыходу? Чаму гэтак упарта адпрэчваем ад сябе думкі пра яе? Чаму амаль з дзіцячай наіўнасцю зберагаем навер'е ва ўласную нямогласць, як і ва ўласную смерць — гэта, маўляў, можа здарыцца з кожным, але не са мной, не з маімі блізкімі і роднымі людзьмі? Ды, можа, акурат гэта і дае нам сілу жыць, працаваць, дбаць пра свой заўтрашні дзень і пра будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў?*

*Нехта з вялікіх сказаў: "Майстэрства прадоўжыць жыццё — гэта майстэрства не скараціць яго". Усе вялікія мудрыя, вядома. Аднак жа, як сведчыць статыстыка, апошнім часам працягласць жыцця беларусаў скарацілася прыкладна на 4 гады. Чым гэта абумоўлена? Аднымі сацыяльна-эканамічнымі прычынамі, якасным пагаршэннем узроўню нашага жыцця-быцця ці, акрамя таго, нейкімі іншымі фактарамі? Адны вучоныя сцвярджаюць, што працэс гэты набірае моцы і будзе мець далейшае развіццё; іншыя ж, наадварот, робяць амаль сенсацыйныя навуковыя адкрыцці і выказваюць меркаванні, што зусім рэальна прадоўжыць жыццёвы шлях чалавека, скажам, да 140 гадоў і болей.*

*Ды, зрэшты, гаворка не пра гэта. Гаворка найперш пра старасць. Думкі пра яе выклікае і ўласны, ужо, на жаль, немалы ўзрост, і стан здароўя мамы. Ёй неўзабаве споўніцца 84. Вядома, часам нядужылася, але ўсё ж да апошняга часу была, так бы мовіць, сама сабе гаспадыняй, рабіла ўсё, нават упраўлялася з гародам і трымала сякую-такую жыўнасць. А тут раптамператварылася ў бездапаможнае дзіця: падай, паднясі, прыбяры. Зрабіць колькі крокаў па хаце — і то праблема, вымагае неймаверных высілкаў. І з горыччу заўважаю, як згасае мама, як усё больш апаноўвае яе роспач, як усё часцей прыбягае да яе думка і просьба: забяры, Божа!..*

*Зрэшты, я магла б і не гаварыць пра сябе і пра сваю журботу. Кожны з нас, бадай, перажыў ці перажывае штосьці падобнае, наглядаў ці наглядае такія сітуацыі на прыкладзе знаёмых, суседзяў, аднавяскоўцаў. Старасць заўсёды была не ў радасць, сёння ж — асабліва. Дзесяцігоддзі трагічных перадтварэнняў жыцця, жорсткіх сацыяльных эксперыментаў перакруцілі, пераламалі мільёны людскіх лёсаў, разбурылі звычныя чалавечыя адносіны і сямейныя традыцыі. Сама жахлівая ўсё гэта адбілася на лёсах старых людзей. Сведчанне гэтага — тысячы адзінокіх, часта нямоглых і занядбаных старых людзей у вёсках і ў гарадскіх клетках-кватэрках, перапоўненыя дамы-інтэрнаты для састарэлых, ветэранаў, інвалідаў...*

*А, між тым, песенька пра тое, што "мае гады — маё багацце" па-ранейшаму ўсё ж расчульвае. Прыгожая метафара! Услед за гэтай, што спалучана з абаяльнай усмешкай знакамітага Вахтанга Кікабідзе, а па-простаму Бубы, прыгадваюцца і іншыя славутыя песенькі — пра тое, што "будуць унукі, а пасля ўсё паўторыцца зноў спачатку", што "старасць нас у дарозе не заспее"... Песенькі песенькамі, а жыццё гаворыць за тое, што старасць нас усё ж даганяе, і засмучае, і падкошвае, выбівае з каляіны, адбірае жыццёвыя радасці і ўцехі, звальвае ў пасцель...*

*Пра старасць, пра тое, што такое старэнне чалавечага арганізма, пра тое, што паскарае гэты працэс і як можна — і ці можна — адсунуць далей набліжэнне немінучай старасці, я гутару з галоўным герыятрам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, акадэмікам Міжнароднай акадэміі геранталогіі Уладзімірам СЫТЫМ.*

# "Мае гады — маё багацце",

## ці А што насамрэч за паэтычнай метафарай?

**— Уладзімір Пятровіч, як кажуць, адразу быка за рогі: старасць — гэта непазбежны біялагічны працэс, супрацьстаяць якому бескарысна? А заадно і такое пытанне: якая працягласць жыцця чалавека, колькі адмерана нам прыродай і якая працягласць жыцця нашых суайчыннікаў?**

— Старасць і старэнне — паняцці неадназначныя. Старэнне — гэта складаны біялагічны працэс, які цягне за сабой павольнае паслабленне рэактыўнасці клетак, іх змяненне і страту здольнасці да размнажэння і абнаўлення. Старэнне пачынаецца фактычна адразу ж пасля таго, як завяршаецца рост, развіццё жывога арганізма. Узрост да 45 гадоў прынята лічыць маладым, 45—59 гадоў — сярэднім, 60—74 гады — пажылым, 75 гадоў і больш — старэчым. У межах старэчага ўзросту выдзяляюцца доўгажыхары — людзі, якія пражылі 90 і больш гадоў.

Ну, а якая працягласць жыцця чалавека, колькі яму адмерана прыродай? Пражыць чалавек можа 120—130 гадоў. Ёсць звесткі з краін Усходу і пра тое, што людзі жылі ажно па 160 гадоў. Праўда, звесткі гэтыя не дакументаваныя і таму не могуць быць паказчыкамі.

У розныя часы ў розных краінах сярэдні ўзрост людзей моцна вагаўся. Так, у часы Рымскай імперыі сярэдні ўзрост не паддадных не дацягваў да 22 гадоў, у гады Сярэдневечча — 33-х, у XIX стагоддзі — 38 гадоў, а ў пачатку нашага стагоддзя на Беларусі людзі жылі недзе да 37 гадоў. Сёння, напрыканцы XX стагоддзя працягласць жыцця павялічылася. Так, у Вялікабрытаніі і ЗША яна складае 76 гадоў, у Японіі — ажно 80. У нас, на жаль, працягласць жыцця апошнім часам стала скарачацца. Вучоныя лічаць, што сярэдняя працягласць жыцця беларусаў, якія нарадзіліся ў 1996 годзе, не дасягне і 72 гадоў і ў бліжэйшыя гады яна будзе скарачацца.

**— Тым не менш, і ў нас ёсць доўгажыхары. Ці шмат іх на Беларусі, Уладзімір Пятровіч?**

— Ёсць, вядома, у сярэднім па 120 чалавек на вобласць. Гэта, паўтараю, сярэдні паказчык. А вось рэальнае іх размеркаванне па абласцях вельмі нераўнамернае. Людзей, якім больш за 100 гадоў, найбольш на Віцебшчыне — 174 чалавекі. Тут вылучаюцца Полацкі і Талачынскі раёны. У Полацкім раёне ёсць жанчыны, якім па 116 гадоў. А вось у Брэсцкай вобласці ўсяго 34 доўгажыхары, у сталіцы краіны Мінску — 42.

**— Уладзімір Пятровіч, даўгалецце — гэта працяг, падаўжэнне старасці, а зусім не маладосці і нават не сталасці. У друку прайшла інфармацыя, што недзе к 2050 году сярэдні ўзрост зямлян складзе 60 гадоў. Як бы ў пацвярджэнне гэтага наступны 1999 год аб'яўлены ААН Годам пажылых людзей. Дык, выбачайце, да чаго мы йдзём?**

— Не бянтэжцеся ад таго, што скажу. Калі глядзець на чалавека, як на біялагічны від, дык для таго, каб ён лепш прыстасоўваўся да зменлівага асяроддзя, было б выгадней, каб ён хутчэй, раней даваў патомства, старэў і паміраў... Але для чалавека як істоты разумнай уласціва якраз адваротнае, усе ягоныя імкненні і жаданні скіраваны на тое, каб як мага даўжэй актыўна жыць. Падкрэслю: акурат актыўна жыць! Бо пасіўнае даўгалецце, калі чалавеку патрэбна штодзённая



дапамога іншых людзей, па вялікім рахунку, будзем шчырымі, нікому непатрэбна. Яно вельмі стратнае для грамадства ў цэлым, калі за нямоглым чалавекам патрэбен догляд, з аднаго боку, і з'яўляецца цяжарам для самога старога чалавека, з другога.

**— Чаму, нягледзячы на тое, што нараджальнасць у нас падае, а смяротнасць расце, колькасць старых людзей увогуле не памяншаецца? На аднаго пенсіянера, па статыстычных дадзеных, прыпадае ўсяго паўтара працуючых. Ці не ператвараемся мы ў нацыю старых людзей?**

— Сапраўды, на Беларусі сёння 20—22 працэнты людзей пажылога і старэчага ўзросту. Гэта вельмі шмат. І вы праўду кажаце, што мы нацыя старэючая. Адбываецца натуральнае старэнне насельніцтва. Як вядома, існуюць два тыпы дэмаграфічных паводзін. Першы тып (Азія, Кітай) — высокая нараджальнасць і высокая дзіцячая смяротнасць. Другі тып дэмаграфічных паводзін, калі людзі мала нараджаюць, доўга жывуць і адначасова нізкай смяротнасці немаўлят. Уся Еўропа практычна на гэтым і стаіць. Беларусь тут таксама не выключэнне. Калі гэтак пойдзе і далей, то колькасць пажылых людзей будзе расці, адпаведна будзе павялічвацца і сярэдні ўзрост.

**— І чым гэта, даруйце, пагражае?**

— Я мяркую, што нічым не пагражае. Гэта нармальнае развіццё грамадства ў цывілізаваным свеце. Вядома, трэба прыняць пэўныя захады да павелічэння нараджальнасці, але ў той жа час мы павінны думаць і пра тое, што павінна павялічыцца і працягласць рабочага перыяду людзей. Мы ведаем, што ў многіх краінах Еўропы і ў ЗША пенсійны ўзрост большы, чым у нас. На жаль, нам таксама не абмінуць гэтай праблемы — колькасць працуючых пажылых людзей будзе расці. Тут ёсць свае плюсы і мінусы. Плюсы ў тым, што пажылыя працаўнікі — гэта, як правіла, вопытныя людзі. Але для пажылога работніка трэба стварыць пэўныя ўмовы працы. Па вызначэнні экспертаў СААЗ, пад тэрмін "пажылы рабочы" падпадаюць людзі, якім 45 і больш гадоў. У такога рабочага зніжаецца ўжо вастрыня зроку, слыху, іншых органаў, і дзеля таго, каб ён працаваў прадуктыўна і якасна, яму трэба стварыць адпаведныя ўмовы працы: лепшае асвятленне на працоўным месцы, пазбаўленне яго ад лішняга шуму і г.д. Праца замаруджвае працэс старэння. Чым даўжэй чалавек імкнецца выконваць тую працу, якой ён займаўся ўсё сваё жыццё, тым даўжэй ён будзе заставацца маладым, тым далей будзе адыходзіць ад яго біялагічная старасць.

**— Ці не хочаце вы сказаць, што варта змяніць пенсійны ўзрост у бок яго павышэння? Зараз, як вядома, жанчыны выходзяць на пенсію ў 55, а мужчыны — у 60 гадоў.**

— Людзі творчай працы — пісьменнікі, мастакі, музыканты — застаюцца творцамі да глыбокай старасці. А возьмем разумовую дзейнасць. Ёсць нямала вучоных, акадэмікаў, якім за 80 гадоў, а яны захоўваюць светлы розум, здольнасць запамінаць і аналізаваць. Адназначна: калі чалавек пастаянна заняты адэкватнай разумовай працай, мае трэніроўку памяці, іншых разумовых нагрузак на цэнтральную нервовую сістэму, дык ён можа захаваць свой арганізм больш маладым на больш працяглы час. Спытайце любога пажылога чалавека, і ён вам адкажа, што чым даўжэй ён будзе знаходзіцца "ў страі", адчуваць сваю неабходнасць грамадству, працягваць актыўную працу, тым лепш ён будзе пачувацца. Ды й дзяржаве ад гэтага толькі лепш — менш трэба займацца вырашэннем яго сацыяльных пытанняў.

**— Вядома, што мужчыны жывуць менш, чым жанчыны. Чым гэта тлумачыцца з навуковага пункту гледжання і чаму тады мужчыны ў старэйшым узросце ідуць на пенсію?**

— Я вылучыў бы тут дзве акалічнасці. Папершае, ідэалагічна мужчыны старэюць больш марудна, чым жанчыны. Але гэта абумоўлена асаблівасцямі біялагічнымі, звязанымі з больш павольным зніжэннем рэпрадуктыўных функцый. Асаблівасці мужчынскага генома ў тым, што ён больш падвержаны ўздзеянню стрэсавых фактараў, большай рызыцы. Хто курыць, злоўжывае алкаголем, выконвае аўтаагрэсіўную працу? Вядома ж, мужчыны. Рэпрадуктыўныя функцыі жанчыны зніжаюцца значна раней — гэта, па-першае, а, па-другое, жаночы арганізм менш спазнае аўтаагрэсіўных уздзеянняў і таму, відаць, за кошт гэтага яна і жыве даўжэй.

**— Уладзімір Пятровіч, дык якія фактары ўплываюць на працягласць жыцця, як можна аддаліць немінучую старасць?**

— На сённяшні дзень мы вылучаем два тыпы старэння. Нармальнае фізіялагічнае старэнне — гэта старэнне здаровага чалавека, і паталагічнае, ці паскоранае старэнне — старэнне хворага чалавека, старэнне, працэс якога паскарае тая ці іншая хвароба. Таму, калі хочаш цалкам выкараскаць тое, што адпушчана табе прыродай, трэба, натуральна, весці здаровы лад жыцця, гэта значыць, нармальна сябе паводзіць, больш рухацца, нармальна харчавацца. Курэнне, алкаголь, знясільваючая фізічная праца, дрэнныя экалагічныя ўмовы, кепская вада маладосці чалавеку не дададуць. Каб запаволіць старэнне, мы, медыкі, рэкамендуем ужываць прадукты, багатыя на антыаксіданты. На сёння гэта вітаміны А, Е, С і флаваноіды — рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў гародніне і садавіне. Для Беларусі гэта найперш буракі, капуста, морква, цыбуля. Флаваноіды ёсць і ў чырвоным віне, гарбаце. Калі штодня ўжываць натуральныя антыаксіданты, дык працэс старэння будзе праходзіць замаруджанымі тэмпамі.

Вядома, што на працягласць жыцця чалавека адчувальна ўплываюць і сацыяльныя фактары, яны ці дабратворна спрыяюць ходу біялагічных працэсаў, ці, наадварот, абцяжарваюць іх, рэзка парушаючы нармальную жыццядзейнасць арганізма. Здаровая старасць не вымагае лячэння, палярэджваць і лячыць трэба заўчаснае старэнне.

**— Уладзімір Пятровіч, вы памятаеце камедыю Кандрата Крапівы "Брама неўміручасці"? У цэнтры ўвагі там быў фантастычны "эліксір маладосці". Сёння ж загаворваюць пра бессмяротнасць усур'ёз. Скажам, пішуць пра вынайдзены амерыканскімі вучонымі знізім, які адказвае за працэс старэння клеткі. Гэтае адкрыццё спарадзіла надзеі на магчымасць прадаўжэння жыцця да бясконцасці. Што вы скажаце пра гэты "эліксір бессмяротнасці"?**

— Сапраўды, у друку была інфармацыя пра тое, што амерыканскія вучоныя адкрылі генны механізм, які кіруе дзяленнем храмасом, што адказваюць за даўгалецце, скажам гэтак. Маўляў, дзяленне гэтае можна скіраваць такім чынам, што ў пажылога чалавека будуць выпрацоўвацца высакаякасныя бялкі, якія будуць садзейнічаць нармальнаму функцыянаванню арганізма і ў перспектыве працягласць жыцця павялічыцца. Аднак вучоныя ўсё ж вельмі асцярожна ацэньваюць гэтыя поспехі. Мы ведаем, што за той ці іншай перамогай над прыродай часцей за ўсё нам самім жа даводзіцца і расплачвацца. Я не хачу прарочыць нейкіх бедстваў ад гэтай самай геннай інжынерыі, але заклікаю адносіцца да гэтага вельмі асцярожна, хоць і ведаю, што недзе к 2005 году мяркуецца раскрыць геном чалавека цалкам і такім чынам умяшанне ў геннаабумоўленыя працэсы можа быць рэальным і пры многіх захворваннях, і пры вызначэнні даўгалецця.

*(Працяг на стар. 15)*

р ы м. І спасылаецца згаданы аўтар на Багрымаў кавальскі аўтограф на жырандолі, які ён цытуе так: "Павел Бахрым выкаваў у Крошыне над Шчарай..." І тут жа каментуе: "Я не памыліўся, калі напісаў Б а х р ы м, бо яго так, мне здаецца, пры жыцці ведалі людзі". Не пярэчу, мо і звалі. Мо хто і зваў. Гэта залежала, у каго які слых, як то чуе, як каму чуецца, якая ў каго моўная артыкуляцыя. Гук "г" заўсёды быў у пары з гукам "х". Гэтая аксіёма вядомая ўсім са школьных гадоў. Так што некаму гук "г" мог падацца і за гук "х". Але ж рукапісным аўтографе і кавальскім, зробленым Паўлюковай рукой, маем не "ch", а "h", якое чытаецца як глухое "г" — "Bahrym". То адкуль і чаму такая настойлівасць дамагацца напісання Багрымавага прозвішча праз "х" — Б а х р ы м? Калі ісці за развагамі і меркаваннямі Маліноўскага і прыняць літару "h" за "х", то і першыя словы слыннага Паўлюковага верша, паводле яго, трэба чытаць "захрай, захрай, хлопча малы...", бо ў першапублікацыі, — а яна, нагадаю, зроблена лацінкай, мы маем літару "h" — "Zahraj, zahraj...", якую мы чытаем як "г". То чаму ў Паўлюковых аўтографах, рукапісным і кавальскім, — "Bahrym", "Bahrym", — мы павінны чытаць "h", "H", як "х"?

Ва ўсіх следчых дазнаннях на рускай мове таксама скрозь Паўлюкова прозвішча фігуруе як Багрым. Скуль жа ўзялася форма Б а х р ы м? Думаецца, гэта адбылося на пачатку нашага стагоддзя, калі нашы даследчыкі наноў адкрывалі Багрымава імя. Нехта з іх у гаворцы з крашынцамі не расчуў як след гучанне Багрымавага прозвішча. Вось і ўзнікла — Бахрым. Але як толькі выявіліся Багрымавы аўтографы і іншыя архіўныя дакументы, наша літаратура прыняла за норму Багрымавага прозвішча форму Багрым — гэтак, як пісалася Багрымавай рукой.

## МОВА

Крашынцы — ад малога да вялікага, ад простага местачкоўца да айцоў мястэчка — вялікія патрыёты, вялікія дбайцы пра свой кут. Яны клапоцяцца, каб пасёлак быў утульны. І слова сваё яны шануюць належна, і мова іхняя самабытная, удумлівая, бальзам жывых крыніц.

Кожны з крашынцаў — гэта філосаф, мудрэц. Пабыць з крашынцамі — значыць набрацца мудрасці, разважлівасці, беларускай цноты і непасрэднасці.

Я не вывучаў спецыяльна мову крашынцаў. Для гэтага трэба пажыць з Багрымавымі земляказмі хоць з месяц ці два, а то і год. Але тое-сёе падчас сваіх непрацяглых пабывак я занатаваў. Гэта і асобныя словы, і сказы, якія, як мне падалося, гучаць свежа, натуральна. Скажам, я не мог не занатаваць такі сказ: "Ксёндз жыве на людскіх", "з людскога"... Згодзіцеся, натуральна неказённа гучыць.

Ці яшчэ: "Ён піша праз Крашын рэдко". Не праз Крашын, а праз Крашын. Гэта таксама цікава. І гэтае "рэдко" невыпадковае. Тут можна пачуць і "мястэчко", і "гняздо бусліно", і "мясо", і "абідно, братко".

Сустракаецца шмат архаізмаў, гістарызмаў. Напрыканцы дваццатага стагоддзя я занатаваў і "пшчолаў", і "дзве сёстры" — форму парнага ліку. І "крычвойта", і поўную форму канчаткаў у родным склоне — хатаў, лісічкаў, абабкоў... Паўлюкову люстру завесілі, а не павесілі ці падвесілі; саслалі на Сібір, а не ў Сібір. Крашынцы скажуць: "Малодшы, малодшая ад мяне" (не за мяне), клябань, а не плябань, пробашча, а не пробашч, панавэчылі, а не панявечылі. Пра людзей прышлых, якія нідзе не могуць прыстаць на аселае жыццё, крашынцы скажуць незычліва "повалач". А вось як смачна гавораць крашынцы пра куццю: яе не проста правяць, а куццюють.

Вядома, прыгажосць мовы не ў асобна вылушчаных словах, выслоўях, а ў моўнай плыні. А моўная плынь крашынцаў — як мярэжы, як карункі, дзе адно за другое зачэпліваецца. З асалодай я, скажам, слухаў Ірэну Шышлоўскую, Яніну Малікоўскую. Асабліва вобразна расказвалі яны пра крашынскія падзеі 1828 года, калі Шчара была... засквараная крывёю. Пераканаsuccessfully, калі б дыялектолагі ці студэнты-філолагі, фалькларысты як належна зацікавіліся мовою землякоў Паўлюка Багрыма, яны б зрабілі нямала адкрыццяў і гэтым самым паклалі б у падмурак багрымазнаўства яшчэ адну цаглінку, дапамаглі б глыбей адчуць і зразумець свет, у якім жыў паэт і яго сучаснікі.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

ПАМЯЦЬ

# Яго цаніў Шаляпін

Міжволі на памяць прыходзяць радкі з паэмы Я. Коласа "Сымон-музыка" пра невядомыя, непрызнаныя таленты, калі ўспамінаю ўраджэнцаў Лагойска братоў Селехаў — Яўстафа і Вячаслава. Пра Яўстафа звестак амаль не захавалася. Вядома толькі, што ён быў намеснікам першага дырэктара Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі і незаконна рэпрэсіраваны (першым дырэктарам тэатра быў заслужаны артыст БССР І. Гітгарц). Вячаслаў жа быў артыстам, рэжысёрам, здольным арганізатарам і педагогам. Нарадзіўся ён 25 снежня 1885 года ў Лагойску. Скончыў пачатковую школу, а ў 1905 годзе — Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Як і старэйшы брат, настаўнічаў у Лагойску. Браты Селехі ўваходзілі ў рэвалюцыйны гурток, члены якога трымалі сувязь з сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй Мінска, атрымлівалі ад яе нелегальную літаратуру, вялі прапаганду сярод насельніцтва і мелі прамое дачыненне да сялянскага бунту ў Лагойску ў 1905 годзе.

Пераждыўшы праследаванні і нягоды, Вячаслаў Селех у 1910 годзе паступае на вучобу ў оперны клас Пецярбургскай кансерваторыі. Пасля яе заканчэння ён прайшоў яшчэ курс навучання ў музычна-драматычным інстытуце, а ў 1915 годзе вытрымаў конкурс і быў прыняты артыстам у Марыінскі імператарскі тэатр Пецярбурга. Тут ён выступаў у операх "Князь Ігар", "Дэман", "Рыгалета", "Барыс Гадуноў", а ў оперы "Хаваншчына" спяваў сумесна са славутым артыстам Фёдарам Шаляпіным. У 1918—1920 гадах яны разам адпачывалі ў Гатчыне пад Пецярбургам. Шаляпін высока цаніў талент В. Селеха, нават аднойчы выказаўся так: "Помні, Сяляшка, як я памру, толькі ты зможаш мяне замяніць".

У 1922 годзе В. Селех пераязджае ў Мінск. Тут ён быў прызначаны першым дырэктарам Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Купалы (БДТ-1). Ён арганізоўвае ў тэатры капэлу ў складзе 50 спевакоў, куды ўліўся і хор з вандроўнага тэатра Уладзіслава Галубка. Працаваў В. Селех выкладчыкам, а затым завучам Беларускага музычна-драматычнага тэхнікума (Мінскае вучылішча імя Глінкі). Б. Сачанка ў кнізе "Сняцца сны аб Беларусі" паведамляе, што В. Селеху было прысвоена званне народнага артыста БССР. З 1925 па 1927 год ён узначальваў камісію нацыянальнага беларускага танца ў Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульт).

У тагачасным тэатральным асяроддзі В. Селех быў неаспрэчным аўтарытэтам, меў шырокую папулярнасць. Сваім мілагучным барытонам зачароўваў публіку. Проста і адкрыта выказваў свае думкі, не цярпеў хлусні і фальшу.

У 1930 годзе В. Селех зноў едзе на працу ў горад на Няве, у той жа Марыінскі тэатр. Праз тры гады ён стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій.

10-гадовы тэрмін зняволення адбываў у неверагодна цяжкіх умовах пад Псковам. Калі тэрыторыя была занята немцамі, вяртаецца ў акупаваны Мінск. Нейкі час быў кіраўніком гарадскога тэатра, затым узначальваў аддзел культуры і мастацтва Беларускай самапомачы.

Апынуўшыся пасля вайны ў Германіі, у так званых "лагерах для перамешчаных", В. Селех не пакідае думкі пра мастацтва. У Берліне паставіў п'есу "Растрачанае жыццё" Хведара Лебяды (сапраўднае прозвішча — Пятро Шыракоў). Для стваранай ім капэлы выкарыстоўваў творы са зборніка маладога кампазітара Міколы Равенскага.



Сам артыст успомніў больш за 40 мелодый старадаўніх песень, у тым ліку вядомую ў канцы мінулага стагоддзя "Ах ты воля, мая воля", складзеную з нагоды рэформы Аляксандра II аб адмене прыгону, або мелодыю песні пра лёс Напалеона "Па сініх хвалях акіяна" і шмат іншых.

У 1950 годзе пераязджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі. У штаце Нью-Джэрсі (паблізу Нью-Йорка) заснаваў драматычны тэатр-студыю і народны хор, ладзіў спектаклі і канцэрты.

Памёр у дзевяностагадовым узросце ў 1976 годзе.

**С. АКУЛІЧ**

# "Мае гады — маё багацце"...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Напрыклад, інстытут геранталогіі Украіны праводзіць штогадовыя канферэнцыі аб гераправтэктарах, інакш кажучы, прэпаратах, якія засцерагаюць нас ад хуткага старэння. Пошук амаладжвальных сродкаў — захапляльны занятак для вучоных. Гэта тыя ж антыакседанты, пра якія я ўжо казаў, і біястымулятары, хоць да іх існуе дваякае стаўленне. Сапраўды, корань жэньшэню дапамагае захоўваць маладосць, але ж можа і штучна стымуляваць жыццядзейныя працэсы, паскараючы тым самым старэнне. Тут адназначнага адказу няма.

**— Уладзімір Пятровіч, хочацца ўспомніць беларускую народную казку пра адносіны да старых людзей. Даўней, апавядаецца ў ёй, старых людзей дзеці адвозілі ў лес і пакідалі там паміраць. Але адзін сын не павёў свайго старога бацьку на загубу, а схаваў яго, карміў-даглядаў і слухаўся ягоных парад, і ў выніку ў ягонай гаспадарцы быў лад і парадак, і жыў сын заможней за іншых. Дачуўся пра тое цар, па загадзе якога чыніліся тыя зверствы са старых людзей, і дайшло да яго, што старых, умудроных вопытам людзей трэба не знішчаць, а шанаваць і паважаць... Ці заўсёды старасць — гэта мудрасць? І чаму ў нас недастаткова шануюць старых людзей?**

— Нават калі й не гаварыць пра мудрасць старых людзей, а іх вялікі жыццёвы вопыт можа быць пацвярджэннем гэтага, дык усё роўна, я лічу, яны вартыя паважных адносін да сябе. Праблема сацыяльнага і медыцынскага абслугоўвання старых людзей — гэта праблема нашых дзён. Як вядома, яшчэ ў пачатку стагоддзя такой праблемы амаль не існавала, бо практычна не было старых людзей, — мы ўжо гаварылі, якая тады была працягласць жыцця. Сёння ж мы бяром на сябе адказнасць за старых людзей, і чым здаравейшае грамадства, чым вышэйшы ягоны інтэлектуальны ўзровень, тым больш павінна яно ставіцца да сваіх пажылых грамадзян. Маладыя павінны ведаць, што й яны ад старасці не ўцякуць, і таму павінны ўсведамляць, што, хоць стары чалавек і не заўсёды бывае прыемным субяседнікам, што ён часта бурчыць, плача, скардзіцца, — тым не менш да старых трэба ставіцца з большай цярплівасцю і паважлівасцю.

**— Нядаўна ў газетах прагучала інфармацыя, што ў Амерыцы на спаборніцтвах па матацыклетных гонках сярод пераможцаў аказаўся 93-гадовы лэдзі, апранутая ў скураныя шорты і куртку. Такія паведамленні з-за мяжы мы чуем часта. Старыя людзі захоўваюць не толькі яснасць розуму, але й жывуць паўнакроўным жыццём. У нас жа старасць асацыіруецца найперш з дамамі састарэлых, з багадзельнямі, хваробамі, нямогласцю і нястачамі.**

— Я нядаўна быў у Германіі. Выпадкова ўзяў газету з аб'явамі. І быў уражаны мноствам аб'яў аб тым, што людзі пажылога і нават старэчага ўзросту шукаюць сабе спадарожнікаў жыцця. З чым гэта звязана? Думаю, з іхнім ладам жыцця. У нас пераважае аўтаагрэсіўны тып паводзін чалавека, мы ў маладосці п'ём, курым, кепска харчуемся, п'ём дрэнна ачышчаную ваду, мала рухаемся, кепска адпачываем і ў выніку за ўсё гэта расплачваемся ў старасці, прытым у ранняй. Наш стыль, лад жыцця сказваецца як на яго працягласці, так і на працэсах старэння. Калі ж чалавек вядзе здаровы лад жыцця, ён і ў старасці бадзёры і прыгожы. А ў нас часта ўжо ў 45—50 гадоў мужчыны і жанчыны ўчарнелыя, маршчыністыя, знямоўжаныя жыццём дарэшты. Само сабою, чалавеку ў пажылым узросце не варта намагацца выглядаць і паводзіць сябе, як трыццацігадовы, але трэба адчуваць прыгажосць жыцця, радавацца сонцу, кветкам, усяму жывому, жыць паўнакроўна.

**— Дай Бог, як кажуць, кожнаму з нас доўга-доўга не старэць, аднак жа, Уладзімір Пятровіч, скажыце колькі слоў пра геранталогію — як пра навуку і як пра галіну практычнай дзейнасці. Якая ў нас служба геранталогіі ў краіне? Гэта разгорнутая галіна медыцыны ці вузкі, вопытны ўчастак працы асобных вучоных і практыкаў?**

— Геранталогія ўвогуле — гэта навука, якая вывучае біялагічныя механізмы і працэсы, што абумоўліваюць і суправаджаюць старэнне жывых істот, а таксама спосабы замаруджвання старэння і павелічэння працягласці жыцця. Я б хацеў гаварыць тут не ўвогуле пра геранталогію як навуку, а як пра ўрачэбную спецыяльнасць, якая па аналогіі з педыятрыяй мае назву герыятрыі. Як у час нараджэння і развіцця чалавечы арганізм мае свае асаблівасці, гэтак і ў час завяршэння сваёй жыццёвай дзейнасці — таксама. І ў сувязі з гэтым прыйшлі да высновы, што патрэбны спецыялісты, якія разумеюць гэта. Сёння герыятр — гэта ўрач, які павінен ведаць не толькі герыятрычную тэрапію, але і псіхалогію, артапедыю, афтальмалогію і іншыя галіны медыцыны. У нас ёсць кафедра герыятрыі і геранталогіі, якая працуе на базе Рэспубліканскага клінічнага шпіталю інвалідаў ВАВ у Бараўлянах. Гэты шпіталь па сутнасці і з'яўляецца герыятрычнай установай і можа быць і герыятрычным цэнтрам. Пакуль жа такі цэнтр знаходзіцца ў нас на базе навукова-даследчага інстытута экспертызы працаздольнасці. Там ёсць лабараторыя па медыка-сацыяльных праблемах пажылых людзей. У абласных і раённых цэнтрах у нас ёсць пазаштатныя герыятры, там-сям — герыятрычныя кабінеты. На жаль, фінансавыя магчымасці не дазваляюць мець такія кабінеты ў кожнай паліклініцы.

**— Уладзімір Пятровіч, апошнім часам даводзіцца чуць нараканні на тое, што ўрачы хуткай дапамогі не спяшаюцца на выклік хворага старэчага ўзросту. Што вы скажаце на гэта?**

— Я думаю, што гэта толькі чуткі. Міністэрства аховы здароўя забараняе любыя спробы дыскрымінацыі ў аказанні медыцынскай дапамогі па ўзросце. Стацыянарная ж дапамога старым людзям аказваецца ў агульнасаматычных аддзяленнях. У кардыялагічных клініках, скажам, 60—70 працэнтаў хворых — пажылыя людзі, у артапедыі, уралогіі — тая ж самая карціна. Зараз адкрываюцца медыка-сацыяльныя аддзяленні для пажылых людзей, якія не маюць нейкіх пэўных вострых захворванняў, а пакутуюць ад хранічных хвароб. І калі родзічы ці суседзі не маюць магчымасці наладзіць догляд такіх хворых, то іх кладуць у такія аддзяленні. Лячэнне тут у пэўнай ступені платнае — з пенсій робіцца адпаведныя адлічэнні. Мне думаецца, што такую форму абслугоўвання і лячэння пажылых людзей варта пашыраць і ўдасканальваць.

Урэшце, ёсць у нас і Міністэрства сацыяльнай абароны, і грамадская арганізацыя Чырвоны Крыж, якія таксама аказваюць дапамогу адзінокім, пажылым і старым людзям, у большасці абцяжараным і рознымі хваробамі. Аб'ём гэтай дапамогі зусім не маленькі. Несумненна, патрэбна цеснае ўзаемадзеянне ўсіх гэтых трох ведамстваў, каб паляпшаць абслугоўванне пажылых людзей, якія, акрамя сваіх немалых гадоў, іншага багацця часцей за ўсё не маюць.

Старасць — не хвароба, а натуральны і заканамерны этап развіцця індывіда, вынік фізіялагічнага працэсу старэння. Старыміі, яшчэ раз паўтару і падкрэслю, мы будзем усе. Таму й клопат аб старых людзях павінен быць усеагульным.

**— Дзякуй, Уладзімір Пятровіч, за гутарку, за цікавыя развагі, якія, трэба думаць, будуць карысныя як старым, так і маладым!**

**Марыя МІХАЙЛАВА**

